Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE $ 1.00

Post Address:
BIELARUS
P. O. Box 109
Jamaica, N. Y. 11431

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVIII. № 123 — 124 | Ліпень — Жнівень 1967 | NEW YORK — TORONTO | July — August 1967 | Vol. XVII. № 123 — 124

## КУПАЛА І СУЧАСНАСЬЦЬ

**НА 25-ЫЯ ЎГОДКІ АД СЬМЕРЦІ Й 85-ЫЯ ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ**

*28 чырвеня сёлета споўнілася 25 год ад трагічнае сьмерці, а 7 ліпеня спаўняецца 85 год ад нараджэньня найвялікшага беларускага паэты — прарока беларускага нацыянальнага адраджэньня й духовага правадыра народу — Янкі Купалы. Дзеля адзначаньня гэтага падвойнага юбілею зьмяшчаем ніжэйшы артыкул.*

**
*



У роўніцы літаратурна-мастацкай Купала належыць ужо да гісторыі. Пасьля Купалы беларуская паэзія шпаркімі крокамі пайшла наперад, імкнучыся да сучасных і найбольш мадэрных узвышшаў. Інакш кажучы, сучасная беларуская паэзія, у сваім бязупынным разьвіцьці й дасканаленьні, ужо адарвалася ад Купалавае традыцыі, хоць нярэдка й брала зь яе свае вытокі. Затое ў сфэры ідэі сучасная беларуская паэзія ані не адарвалася ад Купалавае спадчыны. Наадварот, яна выказвае шторазь большую тэндэнцыю да звароту да ідэйных узвышшаў Купалавае творчасьці, асабліва тых ейных гадоў, калі Купала, будучы йшчэ духова свабодным, мог, хоць і зь вялікімі абмежаваньнямі, пісаць так, як дыктавала яму нацыянальнае сумленьне. Маем на думцы ўвесь нашаніўскі пэрыяд Купалавае творчасьці, гады Першае сусьветнае вайны ды пэрыяд гэтак званае нутранае эміграцыі паэты ў пачатку 20-ых гадоў.

Купалава творчасьць гэтых пэрыядаў увабрала ў сябе галоўныя ідэйныя асновы беларускага нацыянальнага адраджэньня. Яна распальвала ў народзе бязьмежную любасьць да ўсяго свайго роднага, будзіла ў ім веру ў лепшую будучыню, гартавала ягоную волю да змаганьня, давала духовую моц дзеля пераадольваньня найбольшых нягодаў. Творчасьць Купалы сталася нацыянальным сумленьнем народу. Сяньняшняя беларуская паэзія, часткава вызваліўшыся з духовых аковаў сталінаўшчыны, дзе толькі магчыма ў сучасных абставінах, ідзе ідэйнымі шляхамі, пракладзенымі Купалам.

Яшчэ Францішак Багушэвіч, кідаючы славуты свой лёзунг — „не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі!" — першы сфармуляваў тэзу, што захаваньне роднае мовы раўназначнае зь існаваньнем народу, як нацыі. Гэтую сьвятую праўду глыбака ўсьведаміў Купала й падняў родную мову на ўзвышшы нацыянальнага культу. Яшчэ ў 1910 годзе ў вершы „Роднае слова" Купала сьцьвярджаў і прарочыў:

*Ўсё спаганяць людзі, покі ноч*
*шалее,*
*Вырвуць веру ў шчасьце, веру*
*і надзею,*
*Ды таго ня вырвуць, што напела*
*маці*
*Ночкай над калыскай роднаму*
*дзіцяці.*

*Як жыло ты з намі — будзеш*
*вечна жыці,*
*Грамадой мільёнаў зь сьветам*
*гаманіці...*
*З попелу мінуўшых дзён сьляпых,*
*крывавых*
*Весела узойдзе рунь сьвятлянай*
*славы.*

*І радзімым словам рукой*
*мазалістай*
*Беларус упіша на старонцы чыстай*
*Кнігі ўсіх народаў важна,*
*ў няпрымусе*
*Сумную аповесьць роднай*
*Беларусі!*

Гэтак пісаў Купала, калі роднай мове пагражала сьмерць у вабставінах русыфікацыйнае палітыкі царскае Расеі. У падобных абставінах ды ня без Купалавага прыкладу і ўплыву сучасныя беларускія пісьменьнікі выказваюць бязьмежную любасьць да роднае мовы й выступаюць у ейнай абароне. Бадай што няма ніводнага сучаснага беларускага паэты, які-б хоць аднаго свайго верша ня прысьвяціў роднай мове й ейнай абароне перад такой-жа, як і ў Купалавы часы, загрозай.

У сваім вершы 1912 году „Цару неба і зямлі" Купала выказаў гэткую найбольшую крыўду, спрычыненую беларускаму народу самым Богам:

*Ты ў цьвет сваіх нялічаных народаў*
*Мінуўшчыну і будучыну ўбраў,*
*А ў нас — караючы чужой*
*свабодай —*
*Мінулае — і тое адабраў.*

Балючай трагэдыяй беларускага народу было тое, што ён, у вабставінах духовае няволі, забыўся свае гістарычнай мінуўшчыны. Купала, а за ім і іншыя нашаніўцы, уваскрашаючы ў сваіх творах славу й магутнасьць беларускага народу ў часы сярэднявечных удзельных княстваў і ў эпоху задзіночанай беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, імкнуўся абудзіць у народзе пачуцьцё нацыянальнай гордасьці й веру ў будучыню.

*Ты жыў, ты панаваў у краю*
*родным,*
*Сьцярог ад чужака й законы*
*укладаў;*
*Звон вечавы сход склікаваў*
*народны,*
*І сход аб шчасьці бацькаўшчыны*
*дбаў. —*

прыпамінае Купала народу ягоную шчасьлівую мінуўшчыну. За прыкладам Купалы й пад бясспрэчным ягоным уплывам і сучасныя беларускія пісьменьнікі пачынаюць штораз шырэй адкрываць заслону, зацягнутую над беларускай мінуўшчынай, і шукаць у ёй крыніцаў нацыянальнае моцы для сучаснасьці. У мастацкай прозе Уладзімер Караткевіч, у паэзіі — той-жа Караткевіч, Янка Сіпакоў, Алесь Звонак, Сяргей Панізьнік, Данута Бічэль і іншыя раскрываюць нацыянальны характар нашае мінуўшчыны.

Хоць Купала афіцыйна абвешчаны натхнёным паэтам Кастрычніцкай рэвалюцыі й ейных заваёваў ды энтузіястым савецкай рэчаіснасьці, далёка ня ўсе ягоныя творы даступныя сяньняшняму чытачу. Навет у вапошнім шасьцітомнае юбілейнае выданьне „Збору твораў" Купалы не ўвайшло аж некалькі дзесяткоў найбольш характэрных і каштоўных ягоных твораў. Праўда, выкідваныя з папярэдніх выданьняў ягоныя вершы ў вабароне роднае мовы ў царскіх часох, як „Роднае слова" й „Ворагам беларушчыны", у юбілейным выданьні былі ўжо надрукаваныя. Затое верш 1926 году „Акоў паломаных жандар", у якім паэта бараніў мову перад „ворагамі беларушчыны" савецкага ўжо часу, знаходзіцца пад цэнзурнай забаронай і сяньня. Забароненыя сяньня й Купалавы творы „Над Нёманам", „На Куцьцю", „На Дзяды", „Свайму народу", у якіх паэта ўслаўляў беларускую мінуўшчыну. Пад строгай цэнзурнай забаронай і творы пачатку 20-ых гадоў, у якіх Купала ацэньваў Кастрычніцкую рэвалюцыю, як чужую й варожую Беларусам зьяву, ды супрацьстаўляў ёй нацыянальную рэвалюцыю беларускага народу.

Але дарма! У вялікай і найлепшай частцы сваіх твораў забароненых сяньня Купала ўжо поўнасьцяй рэгабілітаваны беларускімі пісьменьнікамі. Ніякія забароны й хвальшаваньні ня ў моцы заглушыць магутнага голасу праўдзівага Купалы. Гэты голас асабліва моцна гучыць у творчасьці сяньняшняга літаратурнага пакаленьня й запладняе яе высокімі нацыянальнымі ідэямі. Кім для гэтага пакаленьня Купала сяньня, найлепш могуць сказаць радкі ўжо сёлетняга верша Рыгора Барадуліна:

*Калі-б усе вятры Беларусі*
*курган намялі —*
*ён быў-бы пылінкай*
*ля падножжа захмарнай вяршыні*
*славы тваёй;*

*калі-б усе гаі Беларусі*
*хацелі сьцяжыны ўсцяць*
*дзе ногі твае ступалі, —*
*у іх-бы лістоў не хапіла;*

*калі-б усе навальніцы плакалі —*
*іхныя сьлёзы*
*былі-б драбнюткай расінкай*
*на вейцы тугі па табе.*
*Іван Дамінікавіч,*
*Дзядзька Янка,*
*Купала...*

**Ст. Ст.**

---

*ВЫСОКА ДАСТОЙНАГА ПРЭЗЫДЭНТА РАДЫ БНР*

інжынера МІКОЛУ АБРАМЧЫКА

*ў дзень 65-ых угодкаў ад Ягонага нараджэньня, што спаўняюцца 6-га жніўня сёлета, шчыра вітаем і ад усяе душы Яму жадаем добрага здароўя, доўгага жыцьця, асабістае памыснасьці ды далейшае плённае нацыянальна-вызвольнае дзейнасьці для дабра Беларускага Народу.*

*Сто год!*

**Рэдакцыя „БЕЛАРУСА"**

---

## ЭКСПО — 67 І БЕЛАРУСЬ

Кагадзе быў я на канцы тыдня ў Мантрэалі й хоць часу скупавата было, але наважыў заглянуць на Сусьветную Выстаўку — Экспо 67. Гэтта хачу падзяліцца з чытачамі сваімі спасьцярогамі. Найбольш карціла мне даведацца, якое-ж месца адведзена нашай паняволенай бацькаўшчыне ў савецкім павілёне ды пра раней ужо рэклямаваны Беларускі Дзень.

Вылез з мантрэальскага мэтро (новага, душнага й цеснага) на абтоку Сьв. Гэлены й пераз мост накіраваўся на абток Нотр Дам. Нядзельная раніца, гадзіна дзясятая. Нізка навісьлі хмары, пагражалі дробным дожджыкам. Званы шматлікіх сьвятыняў скліквалі вернікаў на багаслужбы. Народу на выстаўцы яшчэ мала. Зьлева воддаль ад мосту вялізны амэрыканскі павілён-бурбалка. Яна быццам пазаліхвацку надулася, каб падтруньваць із савецкага „сарая" — гаргарыны з другога боку каналу. Эсэсэраўскі-ж сарай дзёрзка падняў свой казырок, страха пасярод угнулася, быццам той нятрывалкі хрыбет у нядошлага калгаснага каня. Савецкая гаргарына стаіць збоку ад усёй іншай дробязі, што цесна стоўпілася на паўдзённы захад ад яе.

Чаргі перад савецкім павілёнам яшчэ няма. Праз шкляныя сьцены зіхацяць на самым версе спутнікі й іншае касьмічнае знарадзьдзе. Перад фронтам будынку на абшырным п'эдэстале — серп і молат ды даўжэзная рэкляма пра „блага" савецкага ладу. Побач — табліцы эсэсэры із падзелам на ўсе „сувэрэнныя" дзяржавы.

Па рухомых сходах узьяжджаю на другі паверх і падыходжу да інфармацыйнага століка. Сядзяць два паважныя дзядзькі.

— У вас белоруссы есть? — пытаюся лысага, старэйшага.

— Как-же. Есть. У нас целое белорусское государство есть, — ажывіўся дзядзька.

— Я слыхал про белорусское государство. Но будьте любезны сказать мне: есть ли у вас здесь белоруссы.

— Есть двух у нас, Генадий и Леонид. Но не знаю, работают ли они сейчас или позже. Спросите там вот у того столика...

І так Фама паслаў мяне да Лукі, а той да Палашкі. Даведаўся нарэшце, што абое вышэйпрыгаданых пачыналі працу а другой гадзіне папаўдні. Даўгавата хадзіў я па другім паверсе, але між розных мастацкіх сувэніраў, між кніжак і часапісаў не знайшоў нічога беларускага. Зьвяртаюся нарэшце да жанчыны ў кіёску:

— Але-ж і схавалі вы добра Беларусь, што нідзе нічога знайсьці не магу.

Жанчына паварткая, не на ўзор тым, што — прыгадваю — дома хлеб у пустых крамах калгасьнікам у бесканечных чэргах „давалі". Крутанулася й паказала мне на паліцу.

— А от есть й белорусские.

На паліцы стаяў адзін паасобнік „Народнай Асьветы" і „Літаратуры й Мастацтва".

— И это все? — пытаюся.

— Да нет. Тепер нет, но как будет белорусский день, тогда будет полно у нас всего белорусского.

Прыгадаліся мне рэпартажы з бэсэсэраўскай прэсы. Паводля іхных паведамленьняў, чалавек меў уражаньне, што поў Беларусі ў Мантрэаль ужо прывезьлі. А гэтта глядзіш — Масква царыць усюды, а нацменаўскае ў куточкі пазапіхана. Заглянуў я яшчэ на трэці паверх і кінуў вокам на спутнікі, пасьля захлынуўся стаханаўскімі цэнамі на дзьвярох рэстарану. Мая знаёмая з узрослым сынам праела ў рэстаране сямнаццаць даляраў і абое галодныя дамоў падпраўляцца пайшлі.

Пару хвілін сачыў на фільмовым каляровым экране „асваеньне савецкай поўначы". Бас камэнтатара ня прыгадваў, колькі міліёнаў людзей „родная партыя" із Сосам на чале палажыла на падваліны таго „асваеньня".

Нічога не ўдалося мне даведацца й пра даўно рэклямаваны Беларускі Дзень. Сказалі, што будзе 17-га жніўня, але праграмы яшчэ ня маюць. Ужо выходзячы з павілёну, я спыніўся каля апранутага ў уніформу вартавога пры дзьверах. Гэта быў малады хлапец, гадоў 22, паангельску гаварыў добра.

— Маю такое акадэмічнае пытаньне, — усьміхнуўся я да яго, — можа вы маглі-б параіць мне...

— А што?

— Вось калі-б я тут зараз перад вашым павілёнам пачаў раздаваць наведвальнікам лятучкі, дык што-б вы зрабілі мне. Узялі-б за каўнер, ці як?

— Гэта залежыла-б ад таго, якія лятучкі, — усьміхнуўся ён.

Я ня пытаўся яго, якой ён нацыянальнасьці, ці мясцовы, ці прыежджы. Прыгадаў сабе рэакцыю сваіх людзей, калі на вялікім сходзе прабаваў падняць гэта пытаньне. Перапалоханыя „змагары", а найперш сам „змагарны" старшыня сходу, замяў для яснасьці. Як-жа гэта! Канадыйская фэдэральная паліцыя (РСМП) яшчэ раней пальцам намахала, каб барані Божа! Ато чаго добрага, пападзешся яшчэ.

У суботу, напярэдадні майго падарожжа на ЭКСПО 67 — у Квібэку сьвяткавалі дзень Сьв. Яна Хрысьціцеля, свайго патрона. Прэм'ер правінцыі Даніэла Джансан, прамаўляючы на Экспо на Плошчы Нацыяў, сказаў, што Квібэк павінен дамагацца ад Атавы права міжнароднай рэпрэзэнтацыі. Гэткае права — глядзіце вунь — маюць дзьве савецкія рэспублікі.

Здаецца, што гэты пан ня ведаў, пра што гаварыў. Якая гіронія! Беларусь, каторая мае права інтэрнацыянальнае рэпрэзэнтацыі як сувэрэнная дзяржава, схавалі ў маскоўскім моры на Сусьветнай Выстаўцы. І гэтта-ж ёй нехта зайздросьціць і яе дае за прыклад.

**К. Акула**

### АД РЭДАКЦЫІ

**З прычыны летніх вакацыяў гэты нумар „Беларуса" выдаецца падвойным за ліпень-жнівень. Пачынаючы ад верасьня, „Беларус" будзе зьяўляцца ўзноў рэгулярна кожнага месяца.**

*СЯРОД СУРОДЗІЧАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ*

## ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў КЛІУЛЕНДЗЕ

21-га травеня адбылося ўрачыстае парахвіяльнае сьвята БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. На гэтую ўрачыстасьць прыехаў і Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль. Ужо ў чацьвер увечары разьнеслася радасная вестка, што наш Уладыка ўжо ў Кліўлендзе. Усе парахвіяне зь нецярплівасьцяй чакалі, каб пачуць павучальнае слова Уладыкі ды памаліцца разам зь ім у сваёй сьвятыні да Усявышняга за шматпакутную Маці-Беларусь і ейны паняволены народ.

У сыботу 20 травеня Уладыка адслужыў Усеначную ў асысьце а. Калістрата, а. Аляксандра, а. Сьцяпана й а. Ляонція. Хор пад кіраўніцтвам нашага выдатнага дырыгента сп. К. Кіслага сьпяваў вельмі малітоўна й прыгожа. Як сказаў украінскі сьвятар, што яшчэ ня чуў такога хору, каб так добра мог сьпяваць Усеначную.

У нядзелю перад 10-ай гадзінай вернікі чакалі на прыезд Уладыкі. Нарэшце пад'ехала машына, зь якое старшыня Царкоўнае Рады сп. В. Радзюк і сакратар сп. М. Гумен увялі Уладыку ў цэркву. Маленькія дзяўчаткі сыпалі кветкі пад ногі свайму Уладыку. Царкоўны староста М. Пэнда ў прытворы прывітаў Уладыку, які адказаў прывітальным словам.

Распачалася Багаслужба. Апрача вышэй названых сьвятароў, на Багаслужбе быў і а. Пракоп з Чыкага. Хор быў у поўным складзе й пяяў узапраўды прыгожа.

Нязвычайная радасьць напаўняла душы нашых парахвіянаў, калі нашага дарагога харыстага й добрага Беларуса й парахвіяніна сп. Міхася Страпка Уладыка высьвячаў у сан дыякана. Сваёй пропаведзяй Уладыка проста зачараваў вернікаў. З нагоды парахвіяльнага сьвята адбыўся крыжовы ход кругом царквы.

На супольны банкет, што адбыўся пасьля Багаслужбы, прыбыло гэтулькі людзей, што ня было дзе іх разьмясьціць, хоць дзяцей і падросткаў пачаставалі раней. Уладыка пабагаславіў сталы, а ў часе абеду выступалі з прамовамі: настаяцель мясцовае парахвіі а. Аляксандар, парахвіяне Казакі, а. Сьцяпан Украінец, і дыякан Міхась.

Маленькія танцоры Беларускае Сыботняе Школы паказалі, як яны ўмеюць добра танцаваць беларускія народныя танцы. Апошняе слова ўзяў Уладыка. Ён зьвярнуў увагу на дасягненьні беларускае царквы й беларускага народу. Гаварыў аб розных перашкодах і прыкрасьцях, што робяць нам варожыя сілы. Зь вялікім натхненьнем вернікі слухалі прамову Уладыкі, які так прыгожа й вобразна расказаў пра шмат якія рэчы ды навучаў, як трэба любіць нашую сьв. БАПЦаркву. Старшыня В. Радзюк дзякаваў Уладыку за ягоны прыезд, які духова падмацаваў парахвіянаў ды напоўніў іхныя сэрцы Хрыстовай любоўю. Старшыня сказаў, што хацелася-б, каб Уладыка прыяжджаў да нас ня раз, а дзесяць разоў у год. Агульную бяседу закончылі малітвай.

Тут варта заўважыць, што як ворагі не стараюцца зьнішчыць ці аслабіць БАПЦаркву, але нічога ня могуць зрабіць. Беларуская царква не слабее, а мацнее. Вось паўстала новая парахзія БАПЦарквы ў Дэтройце, высьвяцілі новага дыякана ды можна было-б зрабіць шмат яшчэ больш, калі-б ня перашкоды. Прыкра, што ворагам дапамагаюць і слаба паінфармаваныя ці рознымі спосабамі падбураныя людзі, а некаторыя іншыя пхаюцца на чало, ня ўлічваючы сваіх арганізацыйных магчымасьцяў ды несправядлівых і няхрысьціянскіх паводзінаў. Але трэба верыць, што сьв. БАПЦарква будзе разбудоўвацца й ніякія ледавітыя хмары ня скрышаць яе.

**Ул. Д.**

## ДЗЕНЬ МАЦІ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

У сыботу, 3-га чырвеня, адбыўся сход Жаноцкага Згуртаваньня ў Кліўлендзе. Мэтаю сходу было адзначыць Дзень Маці. На сход былі запрошаныя й бацькі. Добра апрацаваны рэфэрат быў прачытаны старшынём Ж. З. сп-няй К. Калядою. Сп. К. Кіслы і дыякан М. Страпко прадэклямавалі вершы, прысьвечаныя маткам. Айцец Аляксандар у сваёй прамове падкрэсьліў значаньне маці ў узгадаваньні дзяцей. На заканчэньне сп-ня Т. Кананчук частавала каваю і свайго выпеку кейкам.

## ЮБІЛЕЙ КАСТУСЯ КІСЛАГА

У нядзелю, 11-га чырвеня, беларускія арганізацыі Кліўленду і прыход БАПЦарквы ладзілі банкет у гонар сп. К. Кіслага з нагоды 50 гадоў ягонага дэрыгенцтва. Адразу пасьля Багаслужбы царкоўная заля пачала напаўняцца. Пасьля агульнае малітвы і багаслаўленьня сталоў а. Александрам, удзельнікі пачалі прабаваць патравы, прыгатаваныя Жаноцкім Згуртаваньнем.

Банкетам кіраваў сп. Ул. Дунец, які прывітаў юбіляра і дзякаваў яму за дапамогу і супрацоўніцтва з моладзьдзю. З прывітальным словам выступалі: сп-ня К. Каляда ад Жаноцкага Згуртаваньня; сп-ня Т. Кананчук ад жаноцкага ансамблюлю; сп. С. Карніловіч ад Аддзелу БАЗА; сп. В. Радзюк і сп. М. Гумен ад Царкоўнае Рады; сп. Ул. Літвінка ад харыстых; сп. Ю. Гасьцееў ад Бацькоўскага Камітэту БСШ; сп. А. Гасьцееў ад моладзі, і настяцель мясцовага прыходу а. Александар.

Пасьля ўсіх узяў слова сам сп. К. Кіслы. Ён падзяліўся сваімі ўспамінамі пра пачаткі свайго дырыгенцтва і сваю любоў да царкоўнага сьпеву. Ён расказаў, як яму з самых юнацкіх гадоў запала глыбака ў сэрцы любоў да свае беларускае народнае песьні. І прайшло шмат гадоў, прыйшлося перажыць войны, арышты, выгнаньне, але любоў да роднае песьні засталася неразлучная.

Сп. К. Кіслы сваёю ахвярнаю працай змог падгатаваць хор у Кліўлендзе так, што цяпер можа запраўды ганарыцца ім кажны Беларус. Хаця і ня былі нармальныя заняткі, слабыя галасы, ня сур'ёзныя і абыякавыя адносіны некаторых харыстых, аднак, дзякуючы здольнасьцям дэрыгента, царкоўны хор знае розныя царкоўныя напевы ды стаіць шмат вышэй за хоры іншых цэркваў, якія большыя колькасна й багацейшыя. Ня гледзячы на ўсе перашкоды і розныя няпрыемнасьці, свой пажылы век і цяжкое матар'яльнае становішча, сп. К. Кіслы заўсёды ахвярна працаваў і не адмаўляў свае дапамогі ніякай арганізацыі. Ён заўсёды вясёлы, сяброўскі, энэргічны. Ён ня толькі дбае аб свой хор на месцы, але й пра хоры ўсіх БАПцэркваў.

Ведаючы, што шмат у якіх прыходах няма фаховых дэрыгентаў, сп. К. Кіслы пры дапамозе моладзі выдаў асобнымі кніжкамі амаль усе царкоўныя ноты: „Вялікдзень", „Малебен", „Паніхіда і Паховіны", „Вянчаньне", „Вербніца", „Вялікі Чацьвер" і інш. Рыхтуе „Сёмуху" і „Вялікую Пятніцу й Сыботу". За ягоную працу для нашае сьвятое БАПЦарквы павінны быць удзячныя яму ўсе Беларусы. Таму трэба й жадаць паважанаму юбіляру доўгага й плённага жыцьця. Хай яму Бог памагае.

**У. Д.**

***

### БАЦЬКОЎСКІ СХОД У КЛІЎЛЕНДЗЕ

4-га чырвеня ў Кліўлендзе адбыўся сход бацькоў, на якім было пастаноўлена распачаць трэнінгі ў футбол із школьнымі хлопцамі. Выбралі дзеля гэтага гаспадарскіх кіраўнікоў у васобах сп. Я. Раковіча й сп. П. Мельніка. Тут ёсьцека 27 хлопцаў у веку ад 8 да 14 гадоў. Некаторыя зь іх ужо трохі йграюць. Трэнінгі маюць адбывацца некалькі разоў на тыдзень у летні сэзон, якія магчыма ўдасца прадаўжаць і зімою. Трэба спадзявацца, што за некалькі гадоў „Пагоня" зноў выйдзе на спартовы пляц, адно будуць тады йграць іншыя грачы: калісьці йгралі бацькі, а цяпер іграць будуць іхныя сыны.

### НА СЬВЯЦЕ Ў СЛАВАКАЎ

Славацкая Ліга ў Амэрыцы 28 травеня спраўляла ў Кліўлендзе 60-годзьдзе свайго йснаваньня. У вялікай залі гатэлю Кліўленд сабралася паўтары тысячы ўдзельнікаў банкету. Быў прысутным мэр гораду й іншыя ўрадаўцы. Паколькі Славакі й Беларусы ў вельмі блізкіх дачыненьнях, дык былі запрошаныя й прадстаўнікі Беларусаў. Ад БАЗА прысутнічаў сп. Я. Раковіч, ад ЗБМА — сп. Ул. Дунец.

## МЭМОРЫЯЛ - ДЭЙ ПАРАД У НЬЮ БРАНСЬВІКУ



**У парадзе на Мэморыял-Дэй у Нью Брансьвіку, што адбыўся 30 травеня, прыняло ўдзел і Задзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі. На здымку зь бел-чырвона-белымі сьцягамі машыруюць у парадзе: справа — старшыня Аддзелу Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў С. Гутырчык, зьлева — сябра Задзіночаньня Вэтэранаў — Я. Азарка.**

## ЗАКАНЧЭНЬНЕ ШКОЛЬНАГА ГОДУ У КЛІЎЛЕНДЗЕ

У сыботу, 17-га чырвеня адбылося заканчэньне навучальнага школьнага году ў Беларускай Сыботняй Школе пры БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці. А 1-ай гадзіне папаўдні адбыўся Малебен. Як прыемна было глядзець, калі так шмат дзяцей стаяла ў рады ў Царкве. Да школьнікаў далучыліся і дзеці дашкольнага веку, якія будуць наведваць школу ў будучыні.

Не аднаму бацьку радавалася сэрца, гледзячы на сваю зьмену і прадаўжальнікаў нашае ідэі. Дзякуючы сваёй роднай школе, яны вучацца быць вернымі БАПЦаркве, яны вучацца сваю мацярынскую мову, яны вучацца беларускія песьні і танцы, яны вучацца пра той далёкі бацькоўскі край, якога яны ня бачылі.

Пасьля Малебну адбылася афіцыяльная частка ў залі. Кіраўнік Б. С. Школы сп. К. Кіслы прамовіў да бацькоў і настаўнікаў, а клясныя настаўнікі раздалі пасьветкі пасьпяховасьці. У мастацкай частцы школьны хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага прасьпяваў дзьве песьні: „Люблю наш край" і „Ці ня дудка мая". Вучань трэйцяе клясы Віктар Міраеўскі выканаў на акардыёне песьню „Туман" і танец „Янку". Найлепшы дэкляматар вучань трэйцяе клясы Васіль Каваленка прадэклямаваў прыгожы верш Янкі Купалы „Я ад вас далёка". Вучаніца чацьвертае клясы Галіна Каляда выканала на піяніне некалькі мэлёдыяў. Школьны танцавальны гурток пад кіраўніцтвам Ул. Дунца выканаў два беларускія народныя танцы „Лявоніху" й „Бульбу". Адразу пасьля заканчэньня праграмы хлапцы паехалі ў парк на трэнінг у футбол.

**Ул. Д.**

### СКОНЧЫЛА ГАЙ-СКУЛ З ГАНАРОВЫМ АДЗНАЧЭНЬНЕМ



Элеанора Гутырчык, дачка Літвіны й Сяргея Гутырчыкаў, сёлета вясной скончыла Гай-Скул у Нью Брансьвіку з ганаровым адзначэньнем: National Honor Society.

Апрача гэтага, у выдазеным ёй дыплёме ёсьць і наступная характарыстыка: Intelligence, charm and ambition foretell a fine future.

Элеанора Гутырчык прынятая на далейшыя студыі ў галіне матэматыкі ў Дуглас Каліджж у Нью Брансьвіку.

Прыяцелі Спадарства Гутырчыкаў жадаюць далейшых выдатных посьпехаў у студыях іхнае слаўнае дачкі, а ім самым пацехі зь яе ў будучыні.

## У ВАБАРОНЕ СВАБОДЫ ТВОРЧАСЬЦІ

У днях 22 — 27 травеня сёлета адбываўся ў Маскве 4-ты Зьезд пісьменьнікаў Савецкага Саюзу, у якім прыймала ўдзел каля паўтысячы выбраных дэлегатаў ад пісьменьніцкіх арганізацыяў, у тым і 21 дэлегат ад Саюзу пісьменьнікаў Беларусі.

Перад самым выездам у Маскву на 4-ы Зьезд савецкіх пісьменьнікаў адзін зь беларускіх дэлегатаў на гэты Зьезд Васіль Быкаў у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 19 травеня ўскладаў на Зьезд гэткія спадзяваньні: **„Даўно насьпела патрэба ўдакладніць некаторыя тэарэтычныя палажэньні мэтаду сацыялістычнага рэалізму, праблемы агульнанароднага й нацыянальнага, суадносіны сьцьвярджальнага й крытычнага патасу ў літаратуры, агульначалавечага й сацыяльнага й г. д.".**

Застаецца адно паспачуваць Васілю Быкаву, што із Зьезду ён вярнуўся напэўна моцна расчараваны. Вельмі мала, вельмі аднабакова, а то й зусім нічога на Зьезьдзе не гаварылася, што ён спадзяваўся пачуць. Ды ці толькі адзін ён! У гэнай сваёй перадзьездаўскай зацемцы Быкаў пісаў далей: **„Спадзяюся, што побач са старэйшымі дзеячамі савецкай літаратуры, на Зьезьдзе скажуць сваё слова й маладзейшыя (у якіх, бязумоўна, знойдуцца нейкія свае праблемы й свае, можа быць, адметныя ад іншых, ацэнкі)".** Напэўна мусіў быць Быкаў расчараваным і ў гэтым. Праўда, із зьездаўскай трыбуны выступаў і адзін прадстаўнік моладзі, але толькі ня пісьменьнік. Гэта быў першы сакратар ЦК Камсамолу СССР С. Паўлаў, які, ад імя моладзі, сказаў гэткае: **„Цяпер у жыцьцё ўступаюць людзі нараджэньня 40-ых гадоў, якія ня ведалі баёў Кастрычніка, ні ваенных няўзгод. Ня гледзячы на гэта, юнакі й дзяўчаты камсамольскага ўзросту вышэй за ўсё ставяць інтарэсам камунізму".** Пра гэта даведаліся мы ўпяршыню з асьветчаньня найвышэйшага кіраўніка камсамольскай арганізацыі, але не з балонак твораў маладых пісьменьнікаў „камсамольскага ўзросту". Бо ў творах маладых і наймалодшых пісьменьнікаў якраз менш за ўсё гаворыцца пра гэныя „інтарэсы камунізму".

4-ы Зьезд савецкіх пісьменьнікаў ня быў пісьменьніцкім голасам, а толькі голасам партыі, выказаным услужлівымі ёй пісьменьнікамі. Запраўдны голас пісьменьніцкага сумленьня моцна прагучэў вонках афіцыйнага Зьезду — у лісьце ведамага расейскага пісьменьніка Аляксандра Салжаніцына, ськіваваным да прэзыдыюму й дэлегатаў Зьезду, да сяброў Саюзу савецкіх пісьменьнікаў, да выдаўцоў літаратурных газэтаў і часапісаў.

Ня будучы сам дэлегатам Зьезду, Аляксандар Салжаніцын, былы вязень савецкіх канцэнтрацыйных лягераў на працягу адзінаццацёх год за крытыку Сталіна ў вапошнюю вайну, шырака ведамы сваёй аповесьцяй 1962 году „Адзін дзень Івана Дзянісавіча" пра лягерныя зьдзекі над нявіннымі вязьнямі, прыгатаваў даўгі ліст, датаваны 16 травенем, які ў сотнях экзэмпляраў быў распаўсюджаны сярод дэлегатаў Зьезду.

У гэтым сваім лісьце Салжаніцын вынес на дзеннае сьвятло цэлае мноства ненармальнасьцяў у савецкай літаратуры з прычыны скоўваньня творчае свабоды партыяй. Галоўна-ж выступіў ён супраць найгоршага зла — партыйнай цэнзуры, гэтага, як ён яе назваў, анахранічнага **„перажытку сярэднявечча, які панопыцца ад дзесяцігодзьдзяў і працягвае сваё йснаваньне траха да 21-га стагодзьдзя".**

**„Гэтая цэнзура, пад абскурнай вывескай Главліт,** — кажа Салжаніцын, — **ня будучы прадугледжанай Канстытуцыяй, а дзеля гэтага нелегальная й нідзе публічна не называная, як такая. Яна накладае ярмо на нашую літаратуру й дае людзям, зусім некампэтэнтным у літаратуры, арбітральны кантроль над пісьменьнікамі".**

Далей у сваім лісьце Салжаніцын піша: **„літаратура ня можа разьвівацца паміж стаўлянымі ёй катэгорыямі: „дазволена" — „не дазволена", „гэта можна — а гэта ня можна". Літаратура, якая не адлюстроўвае свайго сучаснага грамадзтва, якая ня мае адвагі перадаць грамадзтву ўсяго свайго болю й трывогі, якая сваячасова ня перасьцерагае перад загрозай маральнай і сацыяльнай небясьпекі, такая літаратура не заслугоўвае на назоў літаратуры. Такая літаратура траціць давер свайго собскага народу й ейныя друкаваныя творы йдуць на макулятуру замiж быць чытанымі".**

Бяручы ўсё гэта на ўвагу, Салжаніцын зьвяртаецца да пісьменьніцкага Зьезду з канкрэтнай прапановай: **„Я прапаную, каб Зьезд прыняў рэзалюцыю, якая-б патрабавала й загарантоўвала скасаваньне ўсякае цэнзуры, яўнай і тайнай усіх літаратурных твораў і звальняла выдавецтвы ад абавязку атрымліваньня дазволу для публікацыі кажнае друкаванае бачыны".**

Як падалі заходнія газэты, сярод шмат якіх пісьменьнікаў, што далучылі свае подпісы пад лістом Салжаніцына, фігуруе паэта Аўген Яўтушэнка, празаік Кастанцін Паўстоўскі, Васіль Аксенаў, Бэньямін Кавэрын. А колькі-ж савецкіх пісьменьнікаў поўнасьцяй салідарызуюцца ў душы з гэтым лістом, хоць зь ведамых прычынаў не паклалі пад ім свайго подпісу!

Нельга не адзначыць, што ўсё тое, што сказаў Салжаніцын у сваім лісьце сяньня, беларускія пісьменьнікі фактычна сказалі ўжо год таму — на 5-ым Зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі ў палавіне травеня летась. У той час, як галоўны дакладчык на беларускім пісьменьніцкім Зьездзе, судакладчыкі ды ўсяго некалькі іншых удзельнікаў, што выступалі ў дыскусіі, баранілі прынцыпы партыйнае рэглямэнтацыі літаратурнага жыцьця, інакш кажучы падтрымлівалі партыйную цэнзуру, вялікая бальшыня выступаючых у дыскусіі бараніла прынцыпы свабоды літаратурнай творчасьці. Сярод гэтых апошніх асабліва вымоўным было выступленьне Васіля Быкава, які наважана й нядвузначна выступіў быў супраць абмежаваньня свабоды творчасьці партыйнай цэнзурай, хоць і не назваў яе ейным запраўдным імём.

Гэткім парадкам, выступленьні беларускіх пісьменьнікаў на чале з Васілём Быкавам год таму й цяперашняе выступленьне Аляксандра Салжаніцына — гэта запраўдныя й шчырыя галасы пісьменьніцкага сумленьня.

**Ст. Крушыніч**



# ВЕСТКІ з КАНАДЫ



BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.

## ВОСЕМНАЦЦАТЫ ЗЬЕЗД ЗБК

Прадаўжаць шлях Доктара Францішка Скарыны, несьці сьцяг незалежніцкай ідэі Акту 25-га Сакавіка, расьці духам і лікам — было вядучай думкай 18-га Агульнага Зьезду З.Б.К., што адбыўся 3-га чырвеня 1967 г. у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта.

Малітва а. Архімандрыта Мікалая й прывітальныя словы прадстаўнікоў: ад Царкоўнае Рады — сп. Б. Кіркі, ад Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады — Д-р Вінцэнта Жук-Грышкевіча, ад Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады—Д-р Раісы Жук-Грышкевіч, ад Беларускае Крэдыт Юньён—сп. Я. Чорнага, ад „Пагоні"—сп. К. Акулы — жадалі Зьезду посьпеху ў працы.

Адкрыў Зьезд старшыня ўступаючай Галоўнай Управы мгр. А. Грыцук. Мандатная Камісія ў складзе: сп. В. Касьцюкевіча, сп. К. Акулы, сп. А. Протаса абвесьціла Зьезд правамоцным, а Прэзыдыюм у складзе: старшыні — Д-р Б. Рагулі, сакратара—Д-р Р. Жук-Грышкевіч і сябры сп. А. Протаса правадзіў яго працу.

Із справаздачаў Аддзелаў, Сяброў Галоўнае Управы, Канадзкае Рэдакцыі й Адміністрацыі „Беларуса", Адміністратара Дому й Нагляднай Рады выявілася, што апошні год быў годам актыўнасьці, годам узруху й уздыму. На прапанову Нагляднае Рады Зьезд прызнаў уступаючай Галоўнай Управе абсалюторыюм з падзякай і асаблівае прызнаньне яе сакратару.

**Пастановы Зьезду.** Каб ісьці з жыцьцём і датарноўвацца да ўсё новых яго абставінаў, каб аблегчыць працу арганізацыі, Зьезд унёс папраўкі ў Статут З.Б.К. Галоўнымі пунктамі Мэтаў і Заданьняў паводля папраўленага Статуту З.Б.К. ёсьць: „Захаваньне й культываваньне беларускай нацыянальнай і культурнай спадчыны" ды „Маральная й матарыяльная дапамога сваім сябром".

Зьезд даручыў новай Галоўнай Управе далажыць усіх стараньняў, каб годна адзначыць Юбілей Беларускага Друку, 50-тыя Угодкі Б.Н.Р., 25-тыя Угодкі сьмерці Янкі Купалы, даць падтрымку новастворанай арганізацыі моладзі, даць большую ўвагу Аддзелам З.Б.К., якія, асабліва Садбурскі, зьяўляюцца важнымі беларускімі пляцоўкамі ў Канадзе, праводзіць працу над пабольшаньнем ліку сяброў арганізацыі, адзначыць Стагодзьдзе Канады Акадэміяй.

Зьезд пастанавіў цалком падтрымаць створаны Задзіночаньнем Беларускіх Жанчын Канады Фонд 450-ых Угодкаў Беларускага Друку, ды арганізатараў выстаўкі Беларускага Друку ў Таронта. Зьезд выслаў прывітальны ліст Прэзыдэнту Рады Б.Н.Р. інж. Міколу Абрамчыку.

У Галоўную Управу З.Б.К. былі выбраныя: на старшыню — сп. Мікола Ганько, на сакратара — Д-р Раіса Жук-Грышкевіч, сяброў — сп. Янка Баран, сп. Язэп Чорны, сп. Лявон Карыба, сп. Барыс Кірка, Д-р. Вінцэнт Жук-Грышкевіч — як рэдактар Канадзкае Рэдакцыі „Беларуса".

У Нагляднуюю Раду ўвайшлі: сп. Антон Маркевіч, сп. Мячыслаў Рачыцкі, сп. Гэнрык Барановіч. У Сяброўскі Суд былі выбраныя: сп. Аляксандар Протас, сп. Кастусь Акула, сп. Арсень Монід.

Нацыянальным гімнам закончыліся працы Зьезду. Наканец быў сяброўскі вечар. **Р. Ж-Г.**

## НА ДВАЦЦАТЫЯ ЎГОДКІ ЗБВБ

### 21-ШАМУ ЗЬЕЗДУ СЯБРОЎ І ДЭЛЕГАТАЎ ЗБВБ

Вітаю 21-шы Зьезд ЗБВБ й усіх удзельнікаў яго. Вітаю ЗБВБ з 20-мі ўгодкамі яго існаваньня й усіх Вас, Дарагія Сябры, што на працягу 20-ці год несьлі на сваіх плячах цяжар беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Вялікай Брытаніі й трымалі высока й годна наш бел-чырвона-белы сьцяг.

Прайшло 20 год ад таго памятнага Вадохрышча, калі наша вайсковая йшчэ грамада сабралася з усіх канцоў вольнай Брытанскай зямлі ў яе слаўнай сталіцы Лёндане, каб залажыць першую ў яе гісторыі беларускую арганізацыю — Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

Мы былі поўныя сілы й запалу, нам прысьвячала ідэя вызваленьня нашай паняволенай Бацькаўшчыны. Мы былі пэўныя, што вольны заходні сьвет рашуча праціўставіцца захланнаму маскоўскаму камуністычнаму імпэрыялізму, стане ў вабароне паняволеных народаў, у выніку чаго й Беларусь будзе вызвалена. Мы былі гатовы ўключыцца ў гэту вызвольную барацьбу. Аднак міжнародныя падзеі пайшлі іншымі шляхамі, давялі да гэтак званай каагзыстэнцыі й нашы надзеі павісьлі ў паветры. Гэта ўсё-ж не зламала нас на духу й ня зьбіла з тропу. Мы зразумелі, што наша вызвольная барацьба зацяжная й доўгая. Яна вымагае ад нас цярплівасьці, вытрываласьці й працавітасьці. Таму мы пераключыліся на жмудную арганічную працу ў галіне нацыянальна-грамадзкай і культурнай, у чым ЗБВБ можа пахваліцца сваімі вялікімі дасягненьнямі. Але я перакананы, што ЗБВБ ня спыніцца на гэтых дасягненьнях, а пойдзе далей на выканаҥьне новых заданьняў.

У цяперашні час, калі нашаму народу на Бацькаўшчыне пагражае русыфікацыя й зьнішчэньне ягонай роднай мовы, нацыянальнай культуры й самабытнасьці, калі браты нашы змагаюцца дома за гэтыя нацыянальныя скарбы — наша роля — роля беларускай эміграцыі тым больш важная й адказная. Мы мусім захаваць нацыянальны твар нашай эміграцыі, захаваць нашу мову, культуру й самабытнасьць і, што найважнейшае, раскрываць бальшавіцкую хлусьню й ашуканства й інфармаваць вольны сьвет аб нялюдзкім наступе маскоўскага камунізму на беларускую культуру й самабытнасьць.

Мы мусім памятаваць, што кажнае наша выступленьне, кажны наш пратэст супраць русыфікацыі нясе палёгку, нясе падтрымку нашым братом на Бацькаўшчыне ў іх няроўным змаганьні за беларушчыну. Наша існаваньне, наш голас, наша актыўнасьць ім патрэбны цяпер, як ніколі раней. Таму злучайма цясьней нашы шэрагі, нашы высілкі ў арганізацыйным жыцьці, каб дружна й старанна выканаць нашы вялікія й адказныя заданьні.

Жадаю 21-му Зьезду ЗБВБ плённай працы, самому ЗБВБ доўгага існаваньня на карысьць нашай Бацькаўшчыны, а ўсім сябром ЗБВБ здароўя, шмат сілаў і вытрываласьці.

Лучуся душою й сэрцам з Вамі ўсімі ў гэты сьвяточны дзень 20-ых угодкаў ЗБВБ. ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**В. Жук-Грышкевіч**
**адзін із заснавальнікаў ЗБВБ**

## ІМЯНІНЫ АЙЦА МІКАЛАЯ

Цёплымі прывітаньнямі, падаркам і „Многімі лета" выражала беларуская калёнія сваю любоў і пашану а. Архімандрыту Мікалаю, адзначаючы ягоныя імяніны супольнай бяседай, што адбылася 4-га чырвеня ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта. Арганізатарам імпрэзы было Задзіночаньне Беларускіх Жанчын Канады.

Віншавалі й дарылі з нагоды 76-ай гадавіны жыцьця й сп. Кірылу Брокінга, прыяцеля Беларусаў і актыўнага парахвіяніна Б.А.П.Ц. у Таронта. Ён сказаў, што, жывучы ў прыязнай беларускай атмасфэры, ня будзе дзіва, калі ён дажыве да жаданых яму „ста год".

Не абмінулі й другога Міколу — сп. Ганька, якога толькі ўчора выбралі старшынём Галоўнай Управы З.Б.К.

Назаўтра, 5-га чырвеня, прыпадаў Дзень Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Дакладам была аддана чэсьць памяці славутай Палачанкі. Дакладчык старшыня З.Б.Ж.К. Д-р Раіса Жук-Грышкевіч — падкрэсьліла, што Еўфрасіньня Полацкая мае для нас, асабліва беларускіх жанчын, падвойнае значэньне. Яна ёсьць Беларускай Сьвятой і яна ёсьць той беларускай жанчынай, якая дзеля свае велічы духа заваявала сабе месца ў гісторыі беларускага народу й па сяньня сьвеціць нам прыкладам. Яна дзякуючы сваім здольнасьцям, розуму, ідэйнасьці й дзейнасьці уславілася, як пашыральніца асьветы й культуры на Беларусі. Аднэй з мэтаў З.Б.Ж.К. і ёсьць пазнаваць жыцьці й дзейнасьць слаўных Беларусак.

Пасьля дакладу сп. Я. Баран і сп. А. Протас падзяліліся ўспамінамі зь дзяцінства, што сьветчылі аб той чэсьці й славе, якой цешыцца памяць Еўфрасіньні Полацкай у беларускім народзе.

„Дэсэртам" бяседы была прачытаная сп. К. Акулам эпіграма на канадыйскіх і паўночнаамэрыканскіх Бэларусаў, напісаная „сябрам з „Пагоні".

Дзякуючы сваёй беларускай сямейцы, айцец Архімандрыт Мікалай зьвярнуў увагу на значаньне супольных бяседаў, якія служаць нам як і для вымены думак, так і для замацаваньня сяброўства й нашай беларускай еднасьці.

Малітвай, як пачаўся, так і закончыўся абед.

## ХРОНІКА

● **ВАСІЛЬ БЫКАЎ НА ІТАЛЬЯНСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОВЕ.** Італьянскі левы месячны часапіс „Ля Сіністра" зьмясьціў у сваім 3-ім нумары за сакавік 1967 году прамову ведамага беларускага пісьменьніка Васіля Быкава пад загалоўкам „Савецкі пісьменьнік у вабароне свабоды мастацтва". Прамову гэту Васіль Быкаў сказаў на зьезьдзе беларускіх пісьменьнікаў у 1966 годзе. Ён войстра крытыкаваў савецкую партыйную палітыку ў вадносінах да мастацтва й пісьменьнікаў, а пры канцы гаварыў пра беларускую літаратуру й беларускія нацыянальныя імкненьні.

Польскі парыскі месячнік „Культура" ў сваім 6-ым нумары за чырвень г. г. надрукаваў прамову Васіля Быкава папольску — пераклад зь італьянскай мовы Ўл. Шнарбахоўскага. А калі-ж зьявіцца гэтая прамова ў беларускім друку на Захадзе?

● **РЭЭМІГРАНТЫ ВАРОЧАЮЦЦА Ў КАНАДУ.** Мы падавалі ўжо вестку аб тым, што рээмігранты з Аргентыны ў Савецкую Беларусь, скаштаваўшы савецкага жыцьця, варочаюцца на эміграцыю ў Аргентыну, у якой жыцьцё шмат горшае, як у Канадзе. Нічога дзіўнага таму, што канадыйскія завяртанцы нядоўга сядзяць на савецкім хлебе. Падахвочаныя прапагандай, яны паехалі ў „сувэрэнную" БССР, але ўжыцца там не змаглі.

Пішыць аб гэтым у „Голасе Радзімы" № 13 І. Макарэвіч, які кажа, што ў Канадзе таксама ёсьць кіцуны й мандрыкі (Кіцун і Мандрык, пасьля пабыту ў БССР, вярнуліся ў Аргентыну. Рэд.), але называе іх „жалкімі" людзьмі за тое, што другі раз пакінулі радзіму. Ён цьвердзіць, што ў Віндзары й іншых гарадох Канады гэтыя паўторныя эмігранты ўнікаюць людзей і жывуць, як мышы ў норах. Гэта знача, што яны або застрашаны камуністымі, або хутчэй за ўсё, цяжка перажываюць сваё расчараваньне камунізмам.

Макарэвіч ня толькі абаронца камуністычнай радзімы, але й русацяп. Ён прапануе, каб „Голас Радзімы" — і так напалавіну расейскі — зусім перайшоў на „обшчэпанятны". Для яго важней русацяпства, як Ленінскі прынцып аб роўнасьці нацыянальнасьцяў.

● **БЕЛАРУСЫ ЧАСТУЮЦЬ УКРАІНЦАЎ РАСЕЙСКІМІ П'ЕСАМІ.** Аб гэтым мы даведваемся зь „Літаратуры й мастацтва". Але гэта газэта ня кажа аб тым, як Украінцы смакуюць гэты пачастунак. Пра гэта апавядаюць канадыйскія турыстыя, якія наведалі Кіеў і пабывалі на гастролях менскага беларускага тэатру. Вось-жа яны расказваюць, як Украінцы былі абураны, што Беларусы прывозяць ім расейскія п'есы. „Мы пагорла маем расейскіх п'есаў у тутэйшых кіеўскіх тэатрах, а вы яшчэ прывозіце нам расейскія п'есы зь Менску" — казалі яны. — „Чаму вы нам не пакажаце сваіх беларускіх п'есаў?" — „Не паложана" — быў адказ Беларусаў.

● **СПРАВА ПАЛЕПШАНЬНЯ ПЕРАПІСУ.** У сувязі з дакладам Д-ра В. Жук-Грышкевіча на Другім Кангрэсе Канадыйскіх Славянаў „Беларусы й канадыйская статыстыка", ды дыскусіяй над гэтым дакладам, выявілася, што канадыйская статыстыка абмінае меншыя й менш ведамыя славянскія групы Канады. Зважыўшы гэта, Другі Кангрэс Канадыйскіх Славянаў вынес рэзалюцыю, у якой прапануе канадыйскім уладам палепшыць тэхніку перапісу насельніцтва Канады — менавіта — увесьці ў фармуляры перапісу назовы ўсіх славянскіх групаў Канады.

● **ВЯСНА ЗЛУЧЫЛА ШЧАСЬЛІВЫЯ ПАРЫ.** Сёлетняй вясной адбыліся 3 вясельлі ў беларускім асяродзьдзі Таронта й Гвэльфу. Спадарства Лабузавы выдалі замуж сваю дачку Ларысу за спадара Юрага Беланоўскага. Шлюб адбыўся ў Беларускай Царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у сыботу 27-га травеня, вянчаў а. Кузьміцкі.

Спадарства Беразоўскія выдалі замуж сваю дачку Ірэну за спадара Мікалая Хамету. Маладых абвянчаў а. Кузьміцкі ў Беларускай Царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у сыботу 10 чырвеня.

Сападарства Ганькі Язэп і Гэлена выдалі замуж сваю дачку Ніну за спадара Робэрта Джэймс Мільлера. Шлюб адбыўся 10-га чэрвеня ў Гвэльфе, вянчаў а. Архімандрыт Мікалай.

Вітаем маладых і іхных бацькоў з радаснай сямейнай падзеяй, а маладым жадаем шмат шчасьця ў іхным сямейным жыцьці.

**Рэдакцыя**

## ДРУГІ КАНГРЭС КАНАДЫЙСКІХ СЛАВЯНАЎ

Кангрэс гэты адбыўся ў Атаве, ў мурох Атаўскага Унівэрсытэту, на працягу 3 дзён — 9, 10 і 11 чырвеня 1967 г. Арганізацыя ясо была пад апекай Міжунівэрсытэцкага Славянскага Камітэту, у які ўваходзяць прафэсары канадыйскіх унівэрсытэтаў, і пад пратэктаратам Яе Міласьці Спадарыні Паўліны Жорж Ваньне — канцлера Атаўскага Унівэрсытэту. Ужо гэтыя факты былі зарукай, што праца Кангрэсу адбудзецца на высокім акадэмічным узроўні.

Імкненьні да ўзаемнай інфармацыі й каардынацыі працы канадыйскіх славістых і славянскіх групаў, ды стварэньня агульнага славянскага воргану выяўляліся ўжо ня раз на працягу апошняга дзесяцігодзьдзя. Але канкрэтнае афармленьне гэтых імкненьняў адбылося толькі ў чырвені 1965 году на Першым Кангрэсе Канадыйскіх Славян у Банф, у Альбэрце. Там быў створаны сталы Міжунівэрсытэцкі Камітэт і было пастаноўлена арганізаваць што два гады кангрэсы Канадыйскіх славянаў.

Другі Кангрэс Канадыйскіх Славянаў у Атаве быў прысьвечаны стагодзьдзю Канадыйскай Канфэдэрацыі, і бальшыня дакладаў прадстаўляла на Кангрэсе ўклад у разбудову Канады паасобных славянскіх этнічных групаў.

Кангрэс гэты прадставіў сілу й значаньне канадыйскіх славянаў, агульны лік якіх сягае больш міліёну. У ім прынялі ўдзел усе славянскія групы, апрача Сэрбаў і Македонцаў, агульным лікам 143 асобы ўлучна з 71 прадстаўніком ад 21 унівэрсытэту, 12 ад канадыйскага ўраду і рэшта ад розных славянскіх арганізацыяў — у наступным складзе паводля альфабэту: Беларусы, Баўгары, Палякі, Расейцы, Славакі, Славенцы, Украінцы, Харваты й Чэхі. Зразумелая рэч, што найбольшы ўклад у Кангрэс далі найбольшыя лікам групы — Украінцы й Палякі, але наагул там панавала сяброўская атмасфэра й роўная пашана да ўсіх групаў, хоць прадстаўленыя яны былі далёка няроўнай колькасьцяй і ўдзелам.

Другі Кангрэс Канадыйскіх Славянаў быў вельмі важнай падзеяй як з пункту гледжаньня культурнага, так і палітычнага. Ён выявіў сілу й творчасьць канадыйскіх славянскіх этнічных групаў, іх вялізарны ўклад у разбудову іх новай свабодалюбнай бацькаўшчыны — Канады, а з другога боку быў доказам, што канадыйскі прынцып свабоды й пашаны да ўсіх этнічных групаў, да іх самабытнай культурнай спадчыны — ня ёсьць якімсь пустым гукам, а рэальным прынцыпам. Гэты Кангрэс быў добрай канфрантацыяй з маскоўскім камунізмам, які крычыць, што нясе свабоду ўсім народам, а ў запраўднасьці трымае ў няволі падбітыя ім народы, нішчыць іх нацыянальнае жыцьцё ўлучна з славянскімі народамі — Беларусамі й Украінцамі.

Канадыйскія ўлады аднесьліся да Кангрэсу з поўнай павагай і прыхільнасьцяй. Яны далі яму вялікую маральную й матар'яльную падтрымку, ды, апрача кампэтэнтных у этнічных справах урадаўцаў, як ведамыя нам Дж. П. Ален і С. Яворскі зь Сітызэншып Бранч, што бралі сталы ўдзел у Кангрэсе (Мр. Ален меў даклад аб шматэтнічнай праграме Сітызэншып Бранч) — дэлегавалі высокіх прадстаўнікоў ураду, якія віталі Кангрэс. На заканчэньне канадыйскія ўлады частавалі ўдзельнікаў Кангрэсу багатым банкетам ад імя Антарыйскага Ураду. З прыватных асоб трэба ўспомніць славацкага прамыслоўца Сьцяпана Б. Романа, які ахвяраваў на арганізацыю Кангрэсу 1000 даляраў.

Кангрэс меў вялікае значаньне й для нас Беларусаў. Беларусы ўзялі ў ім удзел як паўнапраўны сябра, мелі свой даклад і занялі належнае ім месца сярод славянскіх этнічных

# ЧАМУ НЯМА БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЫЙСКАЙ СТАТЫСТЫЦЫ?

Пытаньне гэта было галоўным у дакладзе Д-ра В. Жук-Грышкевіча на Другім Кангрэсе Канадыйскіх Славянаў 9-11 чырвеня сёлета ў Атаве.

Беларусы пачалі прыяжджаць у Канаду на пачатку гэтага стагодзьдзя спад расейскае царскае ўлады, а пазьней у часе між войнамі з Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй. *У першым выпадку* ў Канадзе іх запісвалі Расейцамі, а ў другім Палякамі — згодна зь іх дакумэнтамі. І навет тады, калі пасьля Другой Сусьветнай Вайны прыехалі новыя беларускія іміграньты з высокай нацыянальнай сьведамасьцяй і рознымі дакумэнтамі, у якіх часта было зазначана, што яны Беларусы — выглядала так, што ніхто ў Канадзе не разумеў іх нацыянальнага паходжаньня дзеля розных прычынаў.

Найважнейшай перашкодай у правільным азначаньні нацыянальнасьці недзяржаўных народаў быў той факт, што Канадыйцы прывыклі вызначаць нацыянальнасьць імігрантаў паводля назоваў дзяржаваў, з пад панаваньня якіх яны паходзілі. Такі падыход уносіў блытаніну й часта даводзіў чуць што не да абсурду. Бо як, напрыклад, азначыць нацыянальнасьць такога народу, што меў сваю дзяржаўнасьць, а пазьней страціў яе? Ці дзеля гэтага ён перастаў быць асобнай нацыянальнасьцяй, хоць застаўся тым самым народам на тэй самай сваёй тэрыторыі?

Другой ня меншай перашкодай ёсьць недахоп веды ў Канадыйцаў аб Усходняй Эўропе й асабліва аб усходніх славянах. Яны ўважаюць, што Савецкі Саюз гэта Расея, і ня лічацца з тым фактам, што нерасейскія народы твораць палавіну Савецкага Саюзу й імкнуцца да сваёй незалежнай дзяржаўнасьці. Ня лічацца з тым, што Беларусь абвесьціла сваю незалежнасьць Актам 25-га Сакавіка ў 1918 годзе й толькі бальшавіцкая навала зьнішчыла гэтую незалежнасьць. Не бяруць пад увагу, што навет бальшавікі мусілі лічыцца з гэтым гістарычным фактам і ўтварылі БССР, ды зрабілі яе сябрам Задзіночаных Нацыяў. Для Канадыйцаў-жа БССР гэта тая самая Расея.

Такога пагляду трымаецца канадыйская прэса, такі-ж пагляд праводзіцца ў школьных падручніках, як напр. у падручніках геаграфіі для 10-й і 12-ай клясы сярэдняй школы. Ня дзіўна тады, што такі пагляд пашыраны ў канадыйскім грамадзтве, сярод дзяржаўных урадаўцаў і перапісчыкаў насельніцтва Канады. Гэткія-ж пагляды праведзены й у інструкцыях для перапісчыкаў у часе перапісу насельніцтва Канады ў 1951 і 1961 гадох. Праўда, у інструкцыі для апшняга перапісу ёсьць мова аб Савецкай Беларусі й прапануецца перапісчыкам упісваць БССР, як месца нараджэньня для тых перапісваных, што зажадаюць гэтага. Але наагул і ў гэтай інструкцыі БССР прадстаўленая, як частка Расеі.

Трэйцяй перашкодай ёсьць тэхнічны бок перапісаў. У фармулярах перапісаў вылічаны толькі большыя й ведамыя этнічныя групы, а меншыя й менш ведамыя не ўспамінаюцца. Назоў нацыянальнасьці *апошніх перапісчык мог* запісаць у вольнай графе, але як ён мог іх запісаць, калі нічога пра іх ня ведаў, а перапісваным ня так лёгка было давесьці іх нацыянальнае паходжаньне на ангельскай мове. У дадатку апошнія маглі падумаць, што, раз іхняе нацыянальнасьці не падаецца ў фармуляры — значыць яна ня прызнана канадыйскімі ўладамі, дык пашто намагацца тады, каб іхняя нацыянальнасьць была ўпісана?

Дзеля ўсяго тут сказанага, як паказалі інтэрвю з тарантонскімі Беларусамі, вельмі нязначны працэнт Беларусаў запісаны ў часе перапісаў Беларусамі, а абсалютная бальшыня запісана або Расейцамі, або Палякамі, у залежнасьці ад таго, пад чыёй *уладай яны жылі*.

Пры такім дачыненьні да меншых і мала ведамых этнічных групаў вынікі перапісаў што да нацыянальнага паходжаньня выйшлі вельмі праблематычнымі, а часамі даходзілі чуць што не да абсурду. Прыкладам можа служыць расейская этнічная група.

Паводля перапісу 1961 году Расейцаў у Канадзе ёсьць 119.168. Але калі разьбіць гэту лічбу паводля рэлігійнае прыналежнасьці, дык выходзіць, што Расейцы твораць у гэтай лічбе абсалютную мяншыню, а бальшыня гэта іншыя нацыянальнасьці. Расейцамі можна залічыць паданую ў табліцы перапісу лічбу 13.761 праваслаўных на агульную лічбу запісаных Расейцамі 119.168 (і то ня ўсю лічбу праваслаўных, бо найменш палавіна будзе ў ёй Беларусаў) і 20.394 духабораў — напэўна Расейцаў. Рэшта-ж — гэта 16.644 каталікоў (хіба што Беларусаў каталікоў), 23.461 жыдоўскай веры — значыць Жыдоў, а не Расейцаў, 9.415 мэнанітаў — гэта Немцы, 8.237 лютэранаў — гэта Балты й часткова расейскія Немцы, 1.180 украінскай грэкакаталіцкай царквы — гэта Украінцы і рэшта гэта розныя пратэстанцкія веравызнаньні лікам 26.126, у якім напэўна ня ўсе ёсьць Расейцамі. Такім чынам у 119.168 запісаных Расейцамі можа быць каля 30.000 запраўдных Расейцаў.

Вялікія цяжкасьці маюць Беларусы і ў упісаньні свайго беларускага паходжаньня ў часе атрыманьня канадыйскага грамадзянства. І тут канадыйскія ўрадаўцы, заміж беларускага паходжаньня, ня гледзячы на пратэсты заінтарасаваных, упісваюць імёны тых краін, пад акупацыяй якіх жылі Беларусы, г. зн. Расею або Польшчу. Выказалі гэта інтэрвю зь Беларусамі з Таронта й ваколіцаў. Толькі нязначнай часты Беларусаў удалося ўпісаць сваё беларускае паходжаньне ў канадыйскі дакумэнт, а ў некаторых выпадках, як напрыклад із сп. К. Акулам і сп. Л. Карыбам, толькі дзякуючы катэгарычнай адмове прыняць дакумэнт, у якім было ўпісана чужое паходжаньне заміж беларускага. Гэта найлепшы прыклад, як трэба змагацца за сваё нацыянальнае імя.

Трэба прызнаць, што не заўсёды й далёка ня ўсе Беларусы дамагаліся прызнаньня свайго нацыянальнага імя. Старая маласьведамая нацыянальна беларуская іміграцыя зусім ня дбала пра тое, як яна будзе запісана. Ёсьць такія й з новай іміграцыі, што прыліплі да Расейцаў ці Палякаў. Але ходзіць тут аб тых Беларусаў, якія ганарацца сваім беларускім паходжаньнем і ня могуць захаваць яго фармальна дзеля вышэйпералічаных прычын.

Свабодалюбнай дэмакратычнай Канадзе не залежыць на адмаўляньні Беларусам прызнаваньня іх нацыянальнага паходжаньня, ці павялічаньня іншых групаў коштам Беларусаў. Трэба толькі дагледзіць, каб урадаўцы былі больш усьвядомлены ў нацыянальных дачыненьнях Усходняе Эўропы і ўвесьці ў тэхніку перапісаў пэўныя зьмены: каб былі пералічаны ў фармулярах перапісу ці на асобным лісьце ўсе этнічныя групы — большыя й меншыя, больш ведамыя й менш ведамыя, каб усе яны мелі роўныя шансы ў захаваньні свайго нацыянальнага паходжаньня.

Хтось скажа мо', што пытаньне, чаму Беларусаў няма ў канадыйскай статыстыцы, сяньня ўжо малаважнае, бо і так усе яны сталіся ўжо канадыйскімі грамадзянамі. Але не забываймася тады, што Канада ня ёсьць „мэлтынг пот" (кацёл мешаніны), што, як цьвердзяць выдатныя канадыйскія дзяржаўныя адзінкі, сіла й моц Канады ў вадзінстве разнароднасьцяў: адзінства ў дзяржаўнай прыналежнасьці й разнароднасьць у спадчыннасьці рознанацыянальных культураў краінаў паходжаньня, што культуры гэтыя твораць усю мазайку вялікай, багатай агульнаканадыйскай моцы й культуры. З гэтага пункту гледжаньня ёсьць вельмі важным, ці Беларусы фігуруюць у канадыйскай статыстыцы.

У другой частцы дакладу была мова пра ўклад Беларусаў ў разбудову Канады.

**В.**

---

групаў Канады. Далейшыя вынікі нашага ўдзелу будуць залежаць ад нашай стараннасьці й актыўнасьці.

Старшынёй Кангрэсу быў прафэсар Атаўскага Унівэрсытэту Канстантын Біда — Украінец, а старшынямі паасобных сэсіяў былі: праф. Стронг з Карлтонскага ўнівэрсытэту ў Атаве, праф. Адамкевіч з Монтрэальскага ўнівэрсытэту, Сэнатар Павал Юзык, праф. Сімпсон з Саскачэванскага ўнівэрсытэту, Др. Кіршбаўм з Антарыйскай Этнічнай Прэсы, Мсгр. Др. Кушнір з Украінскага Канадыйскага Камітэту, Др. Гайдаш — фэдэральны пасол і парлямэнтарны сакратар Міністра Паўночных Спраў, Др. Чуеш із Ст. Францыс Ксавьер унівэрсытэту, праф. Войцехоўскі з Атаўскага ўнівэрсытэту, праф. Мостовац — з Атаўскага ўнівэрсытэту, праф. Міхаленка з Саскачэванскага ўнівэрсытэту, С. Кальба з Украінскага Канадыйскага Камітэту.

Кангрэс правёў вялікую работу. На працягу 3 дзён адбыў 12 сэсіяў, на якіх было прачытана 35 дакладаў з дыскусіямі й адна пэнальная дыскусія. Даклады былі на розныя тэмы — пераважна з жыцьця й дзейнасьці славянскіх групаў у Канадзе, але й на агульныя для ўсіх групаў тэмы, як напр. даклад Р. Марча з Карлтонскага ўнівэрсытэту аб палітычнай рухлівасьці славянаў у фэдэральным і правінцыяльных парлямэнтах Канады. Даклад гэты выклікаў вельмі жывую дыскусію й водгалас у прэсе адносна дыскрымінацыі славян у палітычных партыях Канады.

Удзельнікі Кангрэсу былі занятыя ад раніцы да вечара з малымі пярэрвамі на абед. Вечары таксама былі занятыя. На першы вечар спачатку быў пачастунак віном ад Рэктара Атаўскага ўнівэрсытэту Д-ра Р. Гвідона, а пазьней паказ народнага мастацтва, у якім бралі ўдзел танцавальныя групы польская, славацкая й украінская ды сьпевакі й музыкі гэтых нацыянальнасьцяў. На другі вечар быў банкет у Бікон Армс Гатэлі на кошт удзельнікаў Кангрэсу, на якім меў прамаўляць міністар транспарту Пікэрсгіл, але дзеля яго хваробы прамаўляў ягоны заступнік.

На трэйці вечар — у нядзелю — удзельнікі Кангрэсу былі гасьцямі Антарыйскага Ураду, які выдаў ім банкет у тым-жа гатэлі. Банкет гэты быў асаблівы й тым, што за прэзыдыяльны стол былі запрошаны прадстаўнікі паасобных славянскіх групаў пад старшынствам Д-ра Кіршбаўма — Славака, якія, пасьля агульнага прамоўцы, прамаўлялі ад імя сваей групы на аднэй з урадавых моваў — ангельскай ці францускай (Кангрэс таксама праводзіўся на гэтых двух мовах) і на сваей мове. Цікава было пачуць мовы ўсіх славянскіх народаў. Гэтым Банкетам і закончыўся Кангрэс. Кажны з прамоўцаў разьвітаўся сваім звычаем і на сваёй мове, а беларускі прамоўца Др. Жук-Грышкевіч нашым беларускім „з Богам, бывайце здаровы".

**В.**

---

## СЦТАГОДЗЬДЗЕ КАНАДЫ — СТАГОДЗЬДЗЕ АРГАНІЗАЦЫІ ДЭНТЫСТЫХ АНТАРЫЯ

У той самы 1867 год, калі нарадзілася Канада, нарадзілася й першая ў Канадзе арганізацыя дэнтыстых Антарыя, а як яна па сяньня называецца, „Онтарыё Дэнталь Асосьейшын".

3-га студзеня 1867 г. невялічкая група ў ліку 9-цёх асоб сабралася ў неіснуючым ужо сяньня Квінс Гатэлі Таронта, якое тады налічвала 45.000 насельніцтва, мела некалькі пачатковых школ і вялікую колькасьць тавэрнаў, каб заснаваць арганізацыю тых, што практыкавалі дэнтыстыку. У той час сярод людзей, што аддаваліся гэтаму занятку, была значная частка лекараў. Гэтым і выясьняецца факт, што двух з дзевяцёх заснавальнікаў канадыйскае дэнтыстычнае арганізацыі былі Дактарамі Мэдыцыны. Дзевяць асоб запачаткавала арганізацыю, якая побач зь іншымі падобнымі арганізацыямі сьвету за 100 год стварыла дэнтыстычную навуку й прафэсію, што сяньня стаіць на стражы здароўя чалавека. Запачаткавала арганізацыю, што разбудавала навуковае дэнтыстычку ўсё новых кадраў прафэсіі, што разбудавала навуковае дэнтыстычнае дасьледаваньне, як заруку далейшага разьвіцьця дэнтыстыкі, як навукі.

У гэты памятны для Канады год жменька — дзевяцёх сабралася разам, каб памагаць будаваць канадзкую нацыю, бо нацыя ня будуецца толькі самым Актам. Нацыя творыцца разбудоўваньнем інстытуцыяў і прафэсіяў.

У травені гэтага году „Онтарыё Дэнталь Ассосыейшын" і „Канадыен Дэнталь Асосыейшын" на сумеснай канвэнцыі ў Роял Ёрк Гатэлі Таронта адзначала сваё стагодзьдзе.

**Р. Ж.-Г.**

---

# СЬВ. ПАМ. МІКОЛА ДЗЯМІДАЎ

Дня 23-га травеня г. г. у Чыкага адыйшоў на вечны супачынак ген. маёр беларускіх збройных сілаў *Мікалай Янавіч Дзямідаў* — адна з найбольш маляўнічых фігураў беларускага адраджэнскага руху і адзін з самых заслужаных нашых вэтэранаў, які незабавам абыходзіў-бы 50-годзьдзе сваей грамадзкай і вайсковай дзейнасьці на роднай беларускай ніве. Памерлы быў чалавекам шчырага і адкрытага характару, у якім выдзяляліся дзьве выдатныя рысы: вялікая, гарачая любоў да свайго абясьсіленага народу і кіпучая, здавалася нявычэрпная энэргія. Гэта апошняя часам, бывала, папіхала яго ў крыху нязручныя сытуацыі, з чаго дзехто рабіў высновы, пра яго магчымыя склоннасьці да афэрызму. Але так казаць можа толькі той, хто нічога ня ведаў пра галоўную матывуючую сілу ўсей яго дзейнасьці, а гэта — безаглядная ўмілаваньне нашае Маці-Беларусі.

Пра раньнія гады сьв. пам. ген. М. Дзямідава нам блізу нічога ня ведама. Па прафэсіі быў ён пэдагогам, служыў афіцэрам у царскай арміі. З паўстаньнем Беларускай Народнай Рэспублікі бярэ актыўны ўдзел у тварэньні беларускіх збройных сілаў. Разам із палкоўнікам К. Езавітавам арганізаваў 1-шы Беларускі Полк у Горадні 1919-20 г. Быў нейкі час ваенным камендантам гэтага места. У гэтай якасьці меў гонар вітаць у Горадні ваенную місію ЗША, у склад якое ўваходзіў малады афіцэр Двайт Д. Айзэнгаўэр.

Пасьля рыскага трктату 1921 г. М. Дзямідаў пасяляецца ў Латвіі, дзе, разам з тым-жа К. Езавітавам, вядзе няўтомную працу на роднай ніве: сьпярша арганізуе беларускія школы ў Дзьвіншчыне, пасьля пераяжджае ў Рыгу, дзе вядзе шырокую культурна-асьветную акцыю сярод беларускіх работнікаў, арганізуе сам, ці памагае ў арганізацыі пачатковых школаў, тэхнічнае школы, беларускае гмназіі (прыватнае), настаўніцкіх курсаў, беларускага тэатру, розных таварыстваў, як т-ва „Беларуская Хата", „Рунь", „Прасьвета", „Беларускі Вучыцельскі Хаўрус", ды ўрэшце Беларускі Аддзел Міністэрства Асьветы пры Латыскім Урадзе.

У 1940-ым г. бальшавікі арыштавалі М. Дзямідава й прыйшлося яму пагасьціць на самой Лубянцы. Нейкім цудам удаецца яму вырвацца з кіпцюроў Масквы і, за нямецкай акупацыі, ён узноў энэргічна дзейнічае на Дзьвіншчыне, як беларускі школьны інспэктар, зачыняючы латыскія і адчыняючы беларускія школы, калісь паліквідаваныя Латышамі. Нажаль, латыская адміністрацыя намагалася яго вышыбнуць з гэтага становішча. М. Дзямідаў пакідае Латвію на заўсёды, едзе ў Заходнюю Беларусь і ўзноў бярэцца за арганізацыю нашых збройных сілаў, Беларускай Краёвай Абароны.

Пасьля вайны М. Дзямідаў часова пасяляецца ў паўдзённай Нямеччыне. Ён і тут рук не пакладае — а чым можа, памагае. Калі нашы праваслаўныя герархі зрадзілі беларускаму народу, перайшоўшы дзеля матарыяльнае карысьці да Расейскай Зарубежнай Царквы — ён адным з першых робіць захады дзеля высьвячэньня новага беларускага япіскапа і ўзнаўленьня БАПЦ. Пераехаўшы на сталае жыцьцё ў Чыкага, ЗША, ён і тут да канца жыва цікавіўся ўсім, што датычыла беларускіх арганізацыяў, беларускай Царквы, і т. п. Няма сумлеву, што нязвычайны гэты чалавек сумленна заслужыў, каб памяць аб ім вечна жыла ў нашым народзе.

**П.**

---

## СКАРБ ПРАДСЛАВЫ

Абвяшчаецца зьбіраньне грошай на дапамогу асьвеце. Кажны, хто прышле да 31 сьнежня ахвяру, зможа яе адлічыць ад ападаткаваньня за сёлетні год. Фонд Сьв. Еўфрасіньні ёсьць праўнай часткай БАП-Царквы ў Амэрыцы.

Бацькі, прысылайце заявы на дапамогу Вашым дзецям на летнішча! Вучні ўсіх вучэльняў, прысылайце заявы на грашовую дапамогу (стыпэндыю)! У заяве падавайце адрыс беларускай установы, здольнай пацьвердзіць ідэнтычнасьць зацікаўленай асобы ды ейную навуку.

Грошы й заявы шліце на адрысы:

1. Mrs. Raisa Zuk-Hryskievic, DDS.
   54 Mary Street
   Barrie, Ont. Canada.
2. Mr. V. W. Wasilewski, MD.
   40 Quincy Street
   Passaic, N. J. 07055.
3. Mr. V. Danilovich
   303 Howard Street
   New Brunswick, N. J. 08903.

---

# ФАРМАР НА ФЭСЬЦЕ Ў ТАРОНЬЦЕ

*Валамі ня ехалі, аўтам мы гналі,*
*Ды у Тароньце на фэсьце бывалі.*
*Служба там Божа й абед смачы,*
*мілы*
*Ў Тароньце на фэсьце Сьвятога*
*Кірылы.*

*Суп і катлеты, другія прысмакі. . . .*
*Ганько — гаспадыні належыць*
*падзяка!*
*Пахвальныя граматы йдуць ад*
*прастола,*
*Па 'днэй адхапілі Барыс і Мікола.*

*На тэму Дня Маці гаворкі цімала,*
*Доктар Раіса даклад прачытала.*
*Пра біяграф'ю Сьвятога Кірылы*
*Знаёміў прысутных Архімандрыт*
*мілы.*

*Ды самым апошнім — фігура вяліка*
*Мастак-красамоўца Васіль наш*
*Ўладыка.*
*Прыгожа сьпявалі, ня горш*
*гаварылі.*
*Акула й Маркевіч „Пагоню"*
*стварылі.*

*Параф'ю ў Дэтройце шчэ трэба*
*заўважыць,*
*У іх старшынём ёсьць спадар*
*доктар Сажыч.*
*Там служба-малебен ня пройдзе*
*панура,*
*Бо хорам вядзе капэльмайстар*
*Мазура.*

*Кліўлендзкая моладзь на фэст*
*пасьпяшыла,*
*Таронту навюські аддзел*
*залажыла,*
*У іх, старшынёю Дунец*
*рухавенькі,*
*Ён духам, як волат, хоць ростам*
*маленькі.*

*У групе Ашаўскай ёсьць пыха*
*вяліка,*
*Бо там наш Лішчонак — выдатны*
*музыка.*

*Аркестрай кіруе, цудоўна сам грае,*
*Таронту кружэлак ён стог*
*найгравае.*

*Пра нашых садбурскіх ня чуў я;*
*і далей*
*Ня знаю, што робіцца*
*і ў Мантрэалі.*
*Лёнданскай групе ня вырасьце*
*гуля,*
*Бо там валаводзіць сам доктар*
*Рагуля.*

*Ня будуць іграць ім парожныя*
*брухі,*
*Ім спорнай наварыць наш Шуст*
*саладухі.*
*А ў нас у Брантфордзе дык поступ*
*ніякі,*
*Бо тут Беларусы — усе паўпалякі. . .*
*А часу так мала на фэсьце*
*тутэйшым,*
*Бывайце здаровы, зямляк мой*
*Кумэйша!*
*Як будзем здаровы, між дробязяў*
*іншых*
*На пікнік у Дэтройт яшчэ*
*пасьпяшымся.*
*Канчаю я згадкі, сяброўае, дарэчы,*
*Бывайце здаровы да іншай*
*сустрэчы!*

Травень, 1967.

**Дзядзька з „Пагоні"**

**П. С. Ад Аўтара:** Сьпяваць пад музыку Лішчонка на мэлёдыю „Бывайце здаровы".

**Камэнтар ад перапісчыка:**

Дзядзька з „Пагоні" карову даіў,
Карова хвастом махнула
І талент-самародак
Да творчасьці спанукнула . . .

---

**ПАШТОВЫ АДРЫС „БЕЛАРУСА",**

**на які просім высылаць лісты й грошы на газэту, цяперака гэтакі:**

**Newspaper BIELARUS**
**P. O. Box 109**
**Jamaica, N. Y. 11431**

## АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ

Нарадзіўся ў 1930 г. на Лепельшчыне. Скончыў філялягічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Аўтар зборнікаў „Песьня пра хлеб" (1962) і „Тры цішыні" (1966). Ягоная паэзія вызначаецца пошукамі сучасных формаў, мае інтэлектуальны характар і закранае актуальныя грамадзкія й людзкія праблемы.

Характэрнай азнакай вершаў Вярцінскага тое, што ў іх няма нічога лішняга. Ягоныя вобразы намаляваныя адно кароткімі штрыхамі, часта павязанымі між сабой далёкімі асацыяцыямі, што надае ім плястычную пукатасьць, а думкам і эмоцыям — войструю выразнасьць. Паэтычная мова Вярцінскага зусім простая, гутаркава-народная, густа перасыпаная афарызмамі й народнымі прыказкамі, але, нажаль, часамі й сухаватая ды залішне празаічная.

***

*Мы на пачатку зазналі страху,*
*перад прыродай падалі ніц.*
*Потым лятаць вучыліся ў птахаў,*
*агонь здабываць — у навальніц.*
*Плаваць — у рыб, у сям'і кацінай*
*мы вучыліся паляваць,*
*шумець — у ветру, у кракадзіла —*
*хвальшывыя сьлёзы праліваць.*
*Быць задуменнымі — у воблак,*
*быць спакойнымі — у дрэў,*
*Да зор узьнімаў чалавек свой*
*воблік*
*і, гледзячы на іх, мудрэў.*
*Па прыкладу скал ён нязьгінальны.*
*І тут, і там, як бачым, ён*
*і не такі ўжо арыгінальны,*
*і не такі гэніяльны ён.*
*Проста вучыўся ён заўсёды.*
*І тут, і там — вучобы плён,*
*уплыў настаўніцы-прыроды,*
*яе палон, яе шаблён.*
*Іншая справа — стаць чалавечным.*
*Тут узорам ня можа быць*
*прырода з законам яе адвечным:*
*„З ваўкамі жыць —*
*па-воўчаму выць".*
*Гэты закон не патурае*
*чалавечнасьці. Згодна зь ім,*
*добрым быць — не натуральна,*
*больш натуральна — жорсткім*
*і злым.*
*І ўрок, і ўзор, і прыклад добры —*
*тут у самім сабе знайдзі*
*і ў тых, хто да цябе падобны, —*
*знайдзі і ў новы сьвет ідзі!*
*Ідзі! Будзь мужным і неспакойным,*
*і на шляху сваім крутым*
*ірві з законам тым спакойным,*
*з законам тым, шаблёнам тым.*
*Ідзі! Адольвай самавукам —*
*няма-ж узору навакол! —*
*чалавечнасьці навуку,*
*гэту цяжэйшую із школ!*
*Ідзі! Хоць век, хоць цэлую*
*вечнасьць! —*
*як ходзяць вятры супраць рэк.*
*Ідзі і помні: чалавечнасьць,*
*яна — ад слова: „Чалавек".*

**(„Маладосьць", № 5, 1966)**

### ПОЕЗД СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ

**В. Быкаву**

*Поезд справядлівасьці*
*часта спазьняецца.*
*Ці таму, што дзесьці*
*надоўга спыняецца,*
*ці яго стрымоўваюць*
*ветры і ліўні,*
*ці ён проста ходзіць*
*па няўдалай лініі,*
*ці, можа, чакае*
*недзе поезд стрэчны,*
*ці тут вінаваты*
*ўсё той-жа стрэлачнік!*

.........................................

*Ён такі ўжо поезд —*
*паўзе чарапахаю,*
*як цягнуўся калісь*
*поезд Чарапанавых.*
*І, вядома, спозьніцца*
*пры такім вось ходзе —*
*То на паўмінуты,*
*то на паўстагодзьдзя . . .*
*Я стаю на станцыі,*
*я білет трымаю.*
*Сэмафор зялёны*
*насьцеж адкрываю.*
*Ганю прэч сумненьні,*
*адганяю боязь.*
*Веру у той поезд,*
*чакаю той поезд!*
*Я з тых, хто ім трызьніць,*
*для каго ён — шчасьце,*
*хто сябе гатовы*
*шпалаю пакласьці*
*пад жаданы поезд,*
*абы толькі йшоў ён,*
*абы явай быў ён,*
*ня марай дзяшовай.*
*Таварыш дзяжурны!*
*Таварыш дыспэтчар!*
*Такое спазьненьне*
*проста небясьпечна.*
*Такое спазьненьне*
*да сьмерці падобна.*
*Вы ўжо, калі ласка,*
*папрацуйце добра!*
*Вы пуці агледзьце,*
*ды падсыпце гравійку.*
*Поезд справядлівасьці*
*хай ідзе па графіку!*

**(„Літаратура і Мастацтва", № 34, 1966)**

### ДЫНАМІК

*Ён пасіпеў, пахрыпеў і змоўк,*
*Болей нічога сказаць ня змог.*
*Падышла старая, паслухала:*
*„Што гэта сёньня зь ім?"*
*Падыйшла бліжэй, пастукала:*
*„Маўчыць, не гаворыць зусім . . ."*
*Хуценька ў печы дапаліла,*
*Трохі прыбрала, падмяла.*
*Пайшла вуліцай тапалінай*
*У другі канец сяла.*
*Кажа ўсім: „Іду да радзіста.*
*Нешта радзіва маўчыць".*
*А у радзіста — сын нарадзіўся,*
*Сын нарадзіўся і крычыць.*
*„У вас весела, — кажа старая. —*
*Гэта добра, што сынок.*
*Бач, крычыць як, як стараецца . . .*
*Галасісты крыкунок.*
*Так крычаў і мой малодшанькі,*
*Што забілі на вайне . . .*
*Бач, выпроствае аж ножанькі.*
*Імя выбралі ці не?*
*Бач, які галасок сярэбранькі . . .*
*Так крычаў і мой сярэдняранькі,*
*Ня прыйшоў што з партызан,*
*Што памёр ад цяжкіх ран.*
*А старэйшы быў ціхоня.*
*Як радзіўся — спаў і спаў . . .*
*Можа дзе жыве й сягоньня,*
*Раз бязь весткі ён прапаў?*
*Ні сынкоў няма, нікога.*
*Толькі радзіва адно.*
*Толькі радзіва — мне падмога.*
*Што-б рабіла, каб не яно?*
*І пагаворыць, і пасьпявае,*
*Добрай ночы жадае мне.*
*І паплачам зь ім, бывае,*
*Як успомнім аб вайне.*
*Ды здарылася зь ім штосьці.*
*Не гаворыць яно зусім.*
*Падбяжы як-небудзь, Косьця,*
*Паглядзі, што гэта зь ім.*
*Я-ж адна, няма нікога.*
*Толькі радзіва адно.*
*Толькі радзіва — мне падмога.*
*Ды замоўкла штось яно".*

**(„Маладосьць", № 5. 1966)**

### КОЖНЫ ЧАЦЬВЁРТЫ

У часе мінулай вайны загінуў кожны чацьвёрты Беларус. Колькасьць насельніцтва ў рэспубліцы не дасягнула даваеннага ўзроўню.

**З афіцыйных дакумэнтаў**

*Вы бачылі лес,*
*дзе прагал скразны?*
*Скажыце, вы бачылі бор той,*
*дзе кожнай другой няма сасны,*
*ці сама меней — чацьвёртай?*
*Тое-ж было з народам маім.*
*Сякера вайны прайшлася па ім.*
*І — падаў, распасьцёрты,*
*кожны чацьвёрты,*
*Падалі часта зьнічкі тады,*
*быў небасьхіл чорны.*
*А на зямлі стылі сьляды —*
*кожны чацьвёрты.*
*Мір асьвятліў нас*
*сваім сьвятлом.*
*Грымелі ўрачыста акорды.*
*Толькі ня быў*
*за сьвяточным сталом*
*кожны чацьвёрты.*
*Доўга ня трацілі ўдовы надзей,*
*доўга чакалі маці дзяцей.*
*Ня верылі ўсё, што мёртвы*
*кожны чацьвёрты.*
*Не забываем страты свае.*

*Памяць шуміць, як чароты.*
*О, як нам вас не стае, —*
*кожны чацьвёрты!*

**(„Маладосьць", № 5, 1966)**

## Паэтычныя усходы Палесься

Паэта Ніл Гілевіч у вадным сваім леташнім артыкуле праілюстраваў масавы прыход у беларускую літаратуру штораз новых паэтаў ведамым народным прыраўненьнем: растуць, як грыбы пасьля дажджу. І ўзапраўды, апошнімі гадамі бадай-што ня бывае такога месяца, каб не зьявіліся ў друку новыя прозьвішчы маладых хлопцаў і дзяўчатаў, што пачынаюць стаўляць першыя крокі ў паэзіі. Спасярод адно тых, што дэбютавалі ў паэзіі на працягу апошніх паўтары год, выдаваліся нам асабліва таленавітымі, цікавымі й чымсьці характэрнымі шасьцёх пачынаючых паэтаў у веку 18-20 гадоў. Калі-ж пазьней мы пацікавіліся й іхнай біяграфіяй, дык выявілася вельмі цікавая рэч: усе яны паходзяць з Палесься. Вось іхныя прозьвішчы й біяграфічная геаграфія: Алесь Разанаў і Анатоль Казловіч — зь Бярозаўскага раёну Берасьцейшчыны, Аўгеня Янішчыц — зь Піншчыны, Васіль Кузьміч — з Тураўшчыны, Кастусь Ільюшчыц — із Старобіншчыны, Валянтына Коўтун — з Рэчыцкага раёну Гомельшчыны.

Але Палесьсе ня толькі край паходжаньня гэтых паэтаў. Ня толькі тапаграфічны фон некаторых іхных вершаў. Для некаторых зь іх Палесьсе і аб'ект асаблівага культу. Гэты палескі патрыятызм найглыбей выказаў у сваім вершы „Паляшукі" Кастусь Ільюшчыц:

*Я прызнаюся з гордасьцю на*
*людзях,*
*Што я зь лясоў палескіх, паляшук,*
*Дзе махляроў і лайдакоў ня*
*любяць,*
*Дзе кожны мае пару дужых рук.*

Спасярод усіх шасьцёх паэтаў першая дэбютавала Аўгеня Янішчыц, зьмясьціўшы ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 21 верасьня 1965 году першую нізку сваіх вершаў. Шчырым і мякка-пяшчотным лірызмам ды беспасярэднясьцяй паэтычнага ўспрыйманьня жыцьця ейныя вершы прыпамінаюць лірыку трохі старэйшай за яе Веры Вярбы. Характэрнай рысай ейных вершаў шчырая й пяшчотна-дзявоцкая любасьць да роднага краю. Гэты ейны патрыятызм, ці то рэгіянальна-палескі, ці агульнабеларускі, заўсёды прадметны й асацыюецца з тыповымі зьявамі беларускай прыроды, з канкрэтнымі аб'ектамі беларускай зямлі.

Паэта Генадзь Бураўкін, прадстаўляючы Аўгеню Янішчыц у газэце „Літаратура і Мастацтва", трапна зазначыў: „родная наша зямля беларуская кінула ў яе душу „іскру боскую". Гэтыя Бураўкінавы словы добра тарнуюцца й да ўсіх паэтаў, пра якіх тут гутарка. Гэтае арганічнае зрадненьне з роднай беларускай зямлёй асабліва зырка відаць у вершы ўспомненага ўжо Кастуся Ільюшчыца „Веснавое":

*Я схапіў у вабдымкі лясы,*
*Дзе прагалін блішчаць паясы . .*
*Заманіла мяне такавішча.*
*Там спрабуе вясна галасы*
*І на досьвітку крыльлямі сьвішча.*
*Там сасоньнік глядзіць угару,*
*Там бярэзьнік чакае зару*
*І—з-пад ног траў зялёныя промні!..*
*Я запомніў цябе, Беларусь,*
*На вясновае сонца падобнай!..*

З народных крыніцаў бяруць сваё натхненьне й вершы Алеся Разанава. Пісьменьнік Раман Сабаленка, рэкамэндуючы гэтага паэту ў „Літаратуры і Мастацтве", пісаў, што вершы Разанава ўсхвалявалі яго „сваёй шчырасьцю, сваёй нечаканай навізною, сваёй інтанацыяй, усім сваім паэтычным ладам". Да гэтага трэба йшчэ дадаць, што характэрнай асаблівасьцяй вершаў Разанава глыбокі філязафічны роздум над жыцьцём і шуканьне свайго месца ў ім, каб быць карысным свайму народу. Гэтыя думкі выразна выказаныя ў вадным з найнавейшых ягоных вершаў „Маладосьць";

*Уварвалася ў ранішні золак,*
*Захапіла, як песьня і бой,*
*Асьляпіла агнямі вясёлак*
*І паклікала за сабой.*
*Загадала быць мужным і шчырым*
*У вастрозе няўдач і бед.*
*І ці мне праз палосачкі шчылін*
*Пазіраць на вялізны сьвет?!*
*І ці мне заціхаць перад стомай*
*І спыняцца на паўшляху,*
*І хацінай, сьляпою і соннай,*
*Затуляць ад вятроў шчаку?!*
*І палаць дзеля славы і платы,*
*І сабе прысьвячаць свой бег?!*
*Я іду з маладосьцю крылатай*
*У нязнаны, трывожны век.*

Шчырымі перажываньнямі й глыбокімі думкамі вызначаюцца й вершы Анатоля Казловіча. Паэта нарадзіўся ўжо пасьля вайны—у 1946 годзе. Аднак у сваім вершы „Вось і вясна", ці не найлепшым наагул з усіх ягоных вершаў, паэта ўтаесамляецца з тымі, што жылі ўжо ў вайну й асабіста перажывалі ваеннае гора. Вось гэты верш:

*Вось і вясна прыйшла зноўку . . .*
*І ўспаміны ўвакрэсьлі ціхія,*
*Маўклівымі журавамі на золку*
*У сэрца вярнуліся, болем*
*успыхнулі.*
*Была тады восень, ваенная восень.*
*Зранку склізіла, непагодзіла.*
*У небе таяла апошняя просінь.*
*Бацьку на фронт мы з маці*
*праводзілі.*
*Утрох за вёску выйшлі,*
*Сталі разьвітвацца, працятыя*
*болем . .*
*А журавы у зьмярцьвелай цішы*
*Нізка ляцелі над мглістым полем...*
*„Вось . . . па вясну паляцелі . . .*
*бачыш?*
*Я . . . разам зь імі, сын, —*
*вярнуся..."*

.........................................

(Заканчэньне на 8 бачыне)

тым — узбочынай гасьцінца.

І толькі за два кілямэтры ад сваёй вёскі — паверыў . . .

Наш могільнік прычапіўся на сьхіле гары, па другім, паўночным сьхіле якое спускалася ў даліну вёска.

З могілак у вёску ішло некалькі чалавек — маленькія сілуэты на зялёнай пукатасьці гары. Зрабіўшы тую работу, што адабрала ў мяне — хоць я рыдлёвак здалёк не заўважыў — апошнюю надзею.

. . . Яна вельмі любіла чай. Клала ў яго адну-дзьве лыжачкі вішнёвага варэньня або падлівала трошкі кагору, „царкоўнага віна". Я ўжо мог зарабіць і на гэта. Аднак не хацела доўга заседжвацца ў маім „скварэшніку" — у цеснай кватэры на пятым паверсе, асабліва вясною, калі недзе дома, у вёсцы, зазеляняліся грады.

Вельмі ёй не хацелася памерці зімою. Часта — сама вясёлы, толькі з выгляду суровы чалавек — гаварыла пра мёрзлыя груды, што грукацяць па веку труны. Гаварыла і, жартам — ня жартам, уздрыгвала.

Жаданьне гэтае збылося: лета толькі што пачыналася, сама што ўсё цьвіло.

Усё жыцьцё яна многа і цяжка працавала, зьбіралі з мужам для дзяцей, куплялі зямлю. Усё было строга й ясна падпарадкавана аднай вялікай мэце. І з мужам, і пасьля, як аўдавела.

А потым у сьвеце пачалася такая ламаніна, што мэта яе перастала быць вялікай. Сыны пайшлі ў партызанскі лес, яна — за імі, усё пакінуўшы ворагу на разрыў. Толькі й засталося дабра, што самі яны, яе хлопцы, нявесткі ды ўнукі, ды тое з набытку, што пад табою, на возе, дзе яна сядзела з унукамі, едучы ў цёмную ды сьцюдзёную невядомасьць, вельмі мала прыстасаваную для хворай старасьці й маленства. Ды яна ўжо ўва ўсім згаджалася з сынамі — трохі ад разуменьня што цяпер да чаго, а трохі ад стомы.

Потым, калі закончылася ліхалецьце, было ў старой ня толькі тое жаданьне — памерці ўлетку, але і яшчэ адно. І было яно, гэтае жаданьне, такое шчырае ды цьвёрдае, што яна не пабаялася-б, відаць, выказаць яго самаму старшаму з усіх старшых у нашым пасьляваенным жыцьці. Калі ўжо трэба, як кажуць сыны, каб рухнула ўся работа яе жыцьця, каб набытае горкім потам поле пайшло ў калгас, — няхай ідзе, няхай будзе тое, што павінна быць, але . . . Але „дай, Божа, каб я памерла трохі раней".

І гэтае яе жаданьне таксама збылося: калгас у нашай вёсцы пачаўся праз год.

Ніколі — ні ў думках, ні словам, перад другімі, — я не апраўдваў яе і ня судзіў. І не таму, што яна — мая маці. Для аднаго жыцьця нагрузкі ў яе было аж залішня, а да такога рашэньня — „няхай будзе тое, што павінна быць" — таксама трэба падняцца.

На долю яе прыйшлося чатыры вайны, дзьве рэвалюцыі, пяць перамен улады, семдзесят шэсьць год прасьніцы, сярпа і цэпа, трохі песьняў ды сьмеху, куды больш думак, чаканьня й сьлёз. Зь пяці сыноў, што выжылі да сталага веку, усе пяць былі, кажны ў свой час, салдатамі; чатырох ваявалі ў трох войнах; двух былі ў варожым палоне; двух — праз памылку — сядзелі ў роднай турме; трэйці, за праўду, у панскай; аднаго найстарэйшага, зьеў трыццаць сёмы год...

Я ведаю — гэта яшчэ далёка не найбольш. Я мог-бы расказаць і можа раскажу пра пакуты іншых, знаёмых мне матак — непараўнана большыя, чым выпалі на долю маёй.

Аднак-жа, хто такі мудры вымераў, хто бярэцца акрэсьліць усю глыбіню матчыных пакут наогул, і нават тых, што зьведала за век адна мая?..

У сівай драўлянай капліцы, дзе на другім стагодзьдзі свайго самотнага вісеньня да нудоты пастарэлі цёмна-бяздарныя іконы, пад сьцішнавата-ўзьнёслую песьню пра вечны спакой найбольш плакалі два чалавекі.

Адзін — малодшы брат мае мамы — старэнькі калека-кравец, „залатая іголачка", як казалі суседзі, і залатое сэрца, поўнае народнай мудрасьці, сьвежасьці, аптымізму, якімі ад яго ня раз жывіўся й я. Яна, старэйшая на дзесяць год сястра, вывела яго, рана асірацелага, у людзі, дала яму ў рукі тую іголачку, калі ажаніўся — часта хадзіла мірыць із сварлівай жонкай, і наагул, навет старога яго лічыла як быццам малым, якога кажны можа пакрыўдзіць.

Адвярнуўшыся ад людзей у куток, дзе стаяла, зацягнутая павуціньнем, страя пратэса, малы мой дзядзька, зь вялікай, пад сівым „вожыкам" галавою, ціха, на ўсю душу — як ён умеў і сьмяяцца — заходзіўся плачам.

Я быў куды больш самастойны, і ўжо даўно, гадоў зь пятнаццаці, калі перастаў яе слухаць у самым, як мне здавалася, галоўным для чалавека. Мне было вельмі шкада, што я ўжо не змагу, і іменна цяпер, калі магу, акружыць яе старасьць належнай апекай, зрабіць для маці тое, чаго не пасьпеў, не пасьпелі мы ўсе . . .

. . . Трыццаць гадоў — гэта была яшчэ маладосьць. Наша жанатая пасьляваенная маладосьць.

Вясковаму хлопцу, які нядаўна, ужо не часткова, урыўкамі, спадцішка, а поўнасьцю й адкрыта стаў пісьменьнікам, няцяжка, нават прыемна было, па жартаўліваму загаду жонкі, устаць з-за рабочага стала, узяць мяшок і пайсьві разам зь ёю на рынак. У якасьці проста насільшчыка. Бо ўжо ёсьць бочка, трэба засаліць гуркі.

Гэта было, здаецца, у той-жа год, калі памерла мая маці.

Гэта іменна, там, у ранішняй мітусьні Камароўскага рынку, я яшчэ раз адчуў „несказанную" сілу й веліч паэзіі.

Сьляпы, пажылы інвалід. У заношанай пілётцы, што ніколі, відаць, ня служыла яму дзеля форсу, а толькі скупа прыкрывала галаву. У вельмі бывалым і шэрашурпатым, як няшчодрая ральля, шынялі, сьцягнутым, бяз усякага маладзенства, вузкай брызентавай папругай. У вабмотках і зношаных грукачох - чаравіках. Ён сьпяваў, трымаючы каля боку далонь з манэткамі белай і жоўтай дробязі, а нявідушчыя вочы яго гаварылі пра процьму салдацкага гора, якім нікога ня зьдзівіш. Песьня яго — і хрыплаватым, з гора пявучым голасам, і поўнай журботы душой — гаварыла пра найпрасьцейшую, найвялікшую радасьць жыцьця, пра скарб, які не падлягае ніякім пераацэнкам. І для песьні гэтай, для ацэнкі гэтага скарбу яму, сьляпому, былі дадзены іменна тыя патрэбныя, неабходныя словы, якіх вельмі многія людзі і вельмі часта ня могуць знайсьці:

Пишут мне, что ты, тая тревогу,
загрустила шибко обо мне . . .

Шэры, чыста вымыты мяшок. Прышчатыя, весела-зялёныя гуркі. Шумны, шматхварбны, заклапочаны натоўп. Вялае, добрае сонца жнівенскай раніцы. Без звароту мінулая маладосьць . . . і песьня! — словы, што так шчасьліва знойдзены адным на мільёны, што так непераймальна проста і ўзьнёсла, так па-зямному, па-чалавецку, па-сыноўску тужаць:

. . . и выходишь часто на дорогу
в старомодном ветхом шушуне.

